

# *210 гадоў з дня нараджэння* ***Напалеона Орды*** *(1807–1883),*

### *кампазітара, піяніста, мастака, літаратара, педагога*

Нарадзіўся 11 лютага 1807 года ў радавым маёнтку Варацэвічы Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер вёска ў Іванаўскім раёне на Берасцейшчыне) у сям'і палескай шляхты. Яго бацька — Міхал, паводле адукацыі інжынер-фартыфікатар, амаль увесь час працаваў на будаўніцтве дарог і каналаў, у час падзелаў Рэчы Паспалітай з'яўляўся маршалкам Кобрынскага павета.

Пачатковую адукацыю мастак атрымаў у родным доме. Галоўным яго выхавальнікам і дарадцай на працягу ўсяго жыцця была маці — Юзафіна — дачка пінскага суддзі і мечніка Тадэвуша Бутрымовіча. Яна валодала французскай мовай і была таленавітай піяністкай.

Скончыў Свіслацкую гімназію. У 1823 г. паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Але за ўдзел у тайным студэнцкім таварыстве «Заране» быў арыштаваны і выключаны з універсітэта. Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831, пасля падаўлення якога эміграваў у Францыю. Там пазнаёміўся з Фрэдэрыкам Шапенам, у якога браў урокі музыкі. Напісаў шэраг твораў для фартэпіяна (рамансы, паланэзы, сerэнады, мазуркі). У сярэдзіне 1830-х гадоў — дырэктар Італьянскай оперы ў Парыжы. Вучыўся ў студыі П. Жэрара ў Парыжы і ў Віленскім універсітэце. З 1856 жыве ў Варацэвічах, Гродне, на Валыні. Пакінуў па сабе архітэктурныя замалёўкі вёсак, маёнткаў, замкаў, палацаў, гарадоў Беларусі, Літвы і Украіны.

Наведаў шмат мясцін Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы. Замалёўваў пейзажы і будынкі, звязаныя з жыццём вядомых людзей. Даў абяцанне намаляваць усе замкі Беларусі, пакуль яны не разбурыліся.

Пахаваны ў радавым склепе ў Янаве.



Сядзіба Нямцэвічаў, Скокі, Брэсцкі раён

# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫДАННЕ

БРЭСЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ, КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ РАЙВЫКАНКАМА

БРЭСЦКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ (ГРАМАДСКІ ФУНДАТАР)

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ



**Кантакты:**

(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-957
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 07.03.2017.
Фармат 70х100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці»,
г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал-макет падрыхтаваны
ТАА «Паліграфіка», зак. 11-2017.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013,
вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тэл. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я с. вокладкі**: Весна. Март

**1-я і 4-я с. вокладкі**: рушнікі Марыі Мярэчкі

У афармленні выкарыстаны выцінанкі мастачкі Святланы Вяль

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 1 [17]•2017**

У НУМАРЫ

# З родных вытокаў

**З успамін Людмілы МЕЛЬНІК — дырэктара Астрамечаўскага СДК, аднаго з стваральнікаў народнага ансамбля музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны»**



Гарманіст — на весцы здаўна чалавек паважаны. Ці вяселле, ці вечарына — без гарманіста і яго галасістага інструмента не абыйсціся. Калі гучаў на вуліцы гармонік, то гэта зачароўвала жыхароў: не было абыякавых людзей ні сталых, ні маладых. Вечарамі ў святочныя дні, або выхадныя, астрамечаўская моладзь збіралася на ганку або ў садочку сям'і Антона Шыша і тут пачыналіся жарты, песні, танцы. Часцей усяго моладзь збіралася ля старога клуба-чытальні.

Самым паважаным гарманістам на сяле быў Хомук Мікіта. У гарманіста і яго заліхвацкія «пераборы» на гармоніку была закахана амаль уся жаночая палавіна вескі. Суседскаму хлапчуку Анатолю Шышу таксама хацелася навучыцца іграць, таму ў кожную вольную хвіліну старанна «ціскаў» свой інструмент, не зважаючы на папрокі бацькоў. Ох, нялёгкая гэта справа быць добрым гарманістам!

Калі Анатоль стаў кавалерам, ужо пад яго гармонік танцавала моладзь, а сёстры Галіна і Валя спрауна спявалі у новым клубе вясковыя прыпеукі, усе ў весцы добра ведалі прыгожы галасок Надзеі Абламскай. Спявалі у клубе сямейнымі калектывамі Галіна і Валя

Фестываль фальклора. Ансамбль гарманістаў





Салісты Іван Пятручык і Надзея Абламская



Сямейны калектыў Вера і Фёдар Мозаль



Іграй, гармонік!

Паповы, Іван і Надзея Пятручык, Ніна і Федар Данілюк. Пры Доме культуры працаваў жаночы вакальны гурт, было шмат салістаў. У Надзеі Абламскай асаблівы песенны дар, высачэнны голас і непаўторны тэмбр. Спецыяльна прыязджала камісія праслухаць яе і запрашалі ў хор ім. Вяроўкі. Але жыцце зрабіла свой выбар. Мясцовым гарманістам (яны валодаі і баянам) аднафа-



Выступае вакальны гурт Астрамечаўскага СДК



Ансабль гарманістаў. Адно з першых выступленняў



По роднаму сялу з музыкай

мільцам Валерыю Данілюку і Віктару Данілюку, як гонар, як узнагарода, было «падыграць» песню для Надзеі Абламскай. Спявалі народныя песні, бо іх усе удзельнікі ведалі мноства.

Ішоў час. У Астрамечава пачалося будаўніцтва комплекса па адкорму буйной рагатай жывелы, новага паселка. Прыехала ў веску і некалькі гарманістаў. Захацелася сабраць у Доме культуры гэтых таленавітых музыкантаў, зрабіць свой калектыў гарманістаў. Першым на запрашэнне адклікнуўся Анатоль Шульга, падышлі




На фалькорным фестывалю ў Тэрэспале



Як на сельскай прызбе

яшчэ Валера Данілюк і Віктар Данілюк. Ды вось бяда: гармонікі у кожнага гарманіста другога строю. Не загучалі пераборы ды акорды! Атрымалася як у той байцы «Лебедзь, рак і шчупак»... Кінуліся мы па ўсім наваколлі шукаць патрэбныя інструменты. За гармонікамі ездзілі на Украіну і ў Расію.

Пра тое, што ў Астрамечаускім Доме культуры збіраецца ансамбль гарманістаў прачулі музыканты з другіх весак. Да гурту далучыліся І. Шаўчэнка, А. Мячынскі, І. Шунькін з Лышчыц, С. Босак, бацька і сын Крэйдзічы са Зводаў, настаўнікі школы мастацтваў. А тут яшчэ радасць — знайшоўся таленавіты кіраўнік для калектыва — Федар Мозаль. Першы твор, які выканаў ансамбль гарманістаў, быў беларускі народны танец «Лявоніха». Адсюль і назва ансамбля «Лявоны».

Калектыў набіраў моц, пашыраў свой рэпертуар. Ансамбль прымаў удзел у раенным і абласным аглядах-конкурсах «Іграй, гармонік!» Гарманістаў з Астрамечава пачалі запрашаць на розныя мерапрыемствы і ў суседнія раёны, пачаліся замежныя гастролі. Аднойчы мы вярталіся з паездкі ў Польшчу і на граніцы доўга стаялі ў калейцы. Звярнулі ўвагу, што ў суседнім «бусіку» нехта так натхнёна «рэжа» на гармоніку. Хлопцы хутка знайшлі агульныя тэмы для размовы. Аказалася, з гастроляў па суседняй краіне вярта-еца ансамбль «Лявоны» Воранаўскага СДК Гродзенскай вобласці! Дадому калектыў вярнуўся ужо з другой назвай — «Астрамечаўскія Лявоны». Няхай усе ведаюць хто мы і адкуль!

У гэты час калектыў налічваў ужо 14 гарманістаў. Прыйшлі ў калектыў У. Антанюк, І. Лешкевіч, М. Самасюк, С. Міраненка, А. Агіевіч. Праўленнем гаспадаркі для калектыва былі куплены шэсць тульскіх гармонікаў і пяціradны баян. Ды не абы якія гармонікі, а імянныя: на кожным гармоніку прыгожымі літарамі напісана «Астрамечаўскія Лявоны».

Праз некаторы час хлопцы задумалі «разшырацца», бо стала нецікава проста выконваць музыку. У склад ансамбля ўвайшлі першыя салісткі: Алена Абрамчук, Вольга Тарышава, Вера Мозаль, Людміла Мельнік. Непаўторна загучалі песні, калі ў ансамбль прыйшоў наш «салавей», спявак з шырокім дыяпазонам, чысцейшым голасам, Іван Кацялюк.



Сустрэча з аўтарам кнігі «Мужык» Ул. Ліпскім (трэці злева ў першым радзе)



З народнымі майстрамі

Адкрыццё новага будынка амбулаторыі ў Астрамечава



Упрыгожылі гучанне калектыва цымбалы і скрыпка, шумавыя і ўдарныя інструменты. Сапраўднай знаходкай для ансамбля стаў Уладзімір Антанюк, які маў добры голас, іграў не толькі на гармоніку і баяне, але валодаў скрыпкай, духавымі і ўдарнымі інструментамі. Скрыпка — вельмі самабытны і прыгожы інструмент, які надае харaство гучання ансамблю. Першай скрыпачкай у калектыве была Наталля Панько (тады яшчэ Ступак), затым Іна Солтан, Наталля Карпук. Гэтыя гады былі сапраўдным станаўленнем калектыва. Ансамбль гарманістаў быўператвораны ў ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны». За высокія поспехі ў развіцці мастацкай самадзейнасці 22 лютага 2001 года калектыву было прысвоена званне «народны».

І канечна ж немагчыма ўяўляць поспехі ансабля, калі б не было вялізарнай дапамогі і падтрымцы з боку кіраўнікоў нашага базавага сельскагаспадарчага прадпрыемства — калгаса, СВК «Памяць Ільіча», а затым ОАО «Астрамечава». «Вялікае дзя-



«Лявоны» на сходках Дома культуры, 1999 г.

куй!» — гаворым мы сёння былому старшыні Аляксею Сцяпанавічу Скакуну, сённяшняму дырэктару Алегу Анатольевічу Бураку, іншым кіраўнікам, спонсарам, памочнікам. Музычныя інструменты і касцюмы, апаратура, абсталяванне сцэны і Дома культуры, фінансаванне паездак, канцэртаў, фесцівалей — усе гэта зрабілі і робяць яны...

Ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны» добра ведаюць не толькі ў Беларусі. Калектыў за гэты час пабываў з гастролямі у Германіі, Славакіі, Літве, Польшчы, Расіі, Украіне, прымаў удзел у многіх фестывалях і конкурсах. Калектыў выступаў для мноства дэлегацый краін свету. Усіх нават не пералічыць.

За час існавання калектыва некалькі разоў змяняўся састаў яго ўдзельнікаў. Але есць людзі, якія звязалі з «Астрамечаўскімі Лявонамі» усё свае жыццё. Без гэтых людзей ансамбль таксама быў бы зусім другім...

Болей дваццаці гадоў таму, калі да ансамбля гарманістаў далучыўся Аляксандр Агіевіч, гэта быў сціплы і непрыкметны ўдзельнік. А зараз гэты чалавек — душа нашага калектыву, яго музычны кіраўнік. На кожную рэпетыцыю ён прыходзіць з новымі песнямі і прапановамі. Да яго задумак і меркаванняў кожны з удзельнікаў ансамбля адносіцца з павагай. Гэта яго гармонік дамініруе ў ансамблі, надае непаўторнасць гучання. Ужо больш за 25 гадоў прымае ўдзел у калектыве скрыпачка Наталля Панько, якая адносіцца да сваей справы вельмі сур'ёзна, з поўнай адданасцю. І як меладычна, душэўна гучыць яе скрыпачка! Нязменным кіраўнікам ансамбля з'яўляецца Федар Мозаль, які ўмела вядзе за сабой увесь калектыў.

30 гадоў льецца песня і гучыць гармонік над астрамечаўскімі прасторамі. Без «Астрамечаўскіх Лявонаў» не абыходзіцца ні адно свята, ні адно значнае мерапрыемства ў Доме культуры. Прыйшлі ў ансамбль новыя ўдзельнікі, на цяперашні час ансамбль налічвае дзевяць чалавек. Гэта людзі розных прафесій, рознага ўзросту, а аб'ядноўвае іх любоў да народнай песні і музыкі.

Калектыў, як і раней, працуе на поўную моц, мае мноства творчых планаў.

За апошні час народны ансамбль па запрашэнню польска-беларускай Гандлёвай Палаты пабываў з гастролямі ў г. Інаўроцлаў, г. Торунь, г. Магільна, таксама прыняў ўдзел у міжнародным фестывалі «Дажынкі» (Польша), фестывалі «Лета з беларускай песняй» (Польша), міжнародным фальклорным фестывалі «Вішніца — 2015» (Польша), прыняў удзел у абласным свяце гумару «Спораўскія жарты». Дзе б ні быў калектыў, ён з вялікай любоўю і прафесіяналізмам прадстаўляе беларускую песню і музыку. І не толькі творы вядомых беларускіх кампазітараў, але большым чынам народныя, якія спявалі і спяваюць нашы продкі, нашы дзяды, бабулі, нашы бацькі. «Калі мы носім ганаровы тытул «народны», тады і песні, і музыку павінны выконваць найперш народную, з родных вытокаў!» — лічаць ўсе без выключэння ўдзельнікі калектыва. Нездарма, і па гэтай прычыне таксама, выступленні ансамбля заўжды цёпла прымаюць гледачы, бо нязменным застаецца непаўторнае гучанне ансамбля, яго самабытнасць.

*У добры шлях,*
*дарагія «Астрамечаўскія Лявоны»!*
*У добры шлях яшчэ на 30 гадоў!*



# «Назвалі хлопца Аляксеем»



Песня «Назвалі хлопца Аляксеем» напісана брэсцкім паэтам Міколай Панасюком у супольнасці с кампазітарам Ігарам Лучанком з нагоды 20-гадовага юбілею СКП «Астрамечава», а таксама 55-годдзя з дня нараджэння яго кіраўніка Аляксея Сцяпанавіча Скакуна.

*Сл. Міколы ПАНАСЮКА* *муз. Ігара ЛУЧАНКА*

Назвалі хлопца Аляксеем,
Больш стала ў вёсцы Скакуноў.
Ён спраўна з бацькам жыта сеяў,
Касіў, араў і сеяў зноў.
Сарваўся ў свет аднойчы ранкам
З бацькоўскай хаты ў інстытут.
Пад сонцам, зорамі, маланкай
Імчаў дамоў — у родны кут.

***Прыпеў:***
***Араць мы будзем, сеяць будзем,***
***Жыццё — нібыта баразна.***
***У свята кожнае і ў будзень***
***Вітай наш край цяплом, вясна.***

Твой скарб — зямля, навука, людзі
І ўзлет імклівы Скакуна.
Няхай табе ў радасць будзе
Яшчэ адна твая вясна.
Прымі яе ты ў падарунак,
Як самы светлы Божы дар.
Жыві, красуй зялёнай рунню,
Жыцця і шчасця, гаспадар!

***Прыпеў.***

***Заўвага.*** *Упершыню гэтая песня прагучала ў выкананні кампазітара Ігара Лучанка, маладога артыста Івана Краснадубскага і аўтара верша 3 сакавіка 2001 года ў вёсцы Астрамечава Брэсцкага раёна.*

# Залаты голас Астрамечава

## *Надзея Іосіфаўна Абламская (Касянік)*



*Надежда Иосифовна Обламская родилась 28 апреля 1938 года в д. Медвежики на Белостокщине (рядом с нынешним погранпереходом Песчатка). После войны в 1945 г. большая семья переехала на хутор Плянта возле Остромечево, получив от государства около 10 га земли. С организацией коллективных хозяйств все семейные угодья перешли в местный колхоз. Закончила Остромечевскую семилетку. Долгие годы работала в колхозе свинаркой, дояркой, на других работах. Общий трудовой стаж — 42 года. Муж трагически умер в 1964 г. в возрасте 31 года. В одиночку воспитала и вырастила сына и дочь. Обладает удивительной красоты природным голосом. Активно участвовала в самодеятельности. Любимая песня — «Яблоня», как считает Надежда Иосифовна, — про ее нелегкую судьбу.*

## Яблоня



Ты стоишь всем ветрам, всем метелям открытая,
Как солдат ветеран, боль безмолвно храня.
Опаленная пламенем, сильная, смелая.
Не согнулась в беде лихой яблоня.

Было много сестер, но они все порублены.
Ты лишь ветку одну сберегла от огня.
Воевала ты с бурями, ливнями, грозами,
Не согнулась в беде лихой яблоня.

С этой веткой одной, как солдат однорукий,
Твои ветви порой, как медали звенят.
Ты стоишь моя, сильная, смелая, гордая.
Не согнулась в беде лихой яблоня.

***

Цвитэ тэрэн, цвитэ тэрэн,
Тай цвит опадае.
Хто з любовю нэ знаецца,
Той гора нэ знае.
А я молода дивчина
Все горэ познала,
Вэчороныкы нэ доила,
Нички нэ доспала.

***

Ой, гарна я, гарна господыня.
В огороды лэбэда, а в хати пустыня.
Тые дви подушки, шчо мни маты дала,
То вороны, то сорокы на гнэздо забралы.
Едуть людэ з Брэста, едуть и смэюцца,
Шчо на моих подушках вороны нэсуцця.
Ой, нэ смийтэсь людэ, якось воно будэ,
Воронят я поскубу, тай пэрына будэ.
Ой, гарна я, гарна господыня.
В огороды лэбэда, а в хати пустыня.

# Пра сны і чарадзеяў

*Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія» Нікончык Юлія Мікалаеўна ў в. Пагубяцічы Брэсцкага раёна ад ПАНЬКО Марыі Міхайлаўны (1944 г.н ., правасл., мясцовая)*

***

Был у меня такой сон. Мой дядя умер очень рано: ему было 44. И он приехал, а я тогда болела. И вот мне снится, будто я пришла с больницы и тут у меня дети малые были, надо было растить. Вот смотрю: машина какая-то подошла. И вот смотрю: выходит и говорит: «Поехали». Я говорю: «Куда?». «Домой поедем». «Какой домой, я не могу, мне стирать надо», а он говорит: «Поехали и всё». Тут стоит его машина такая как и сейчас, помню – газик, а там полно людей набито, и мужчины, и женщины, и дети. И уже взял он меня вот так и пихает в тот газик в кабину, а я так думаю: «Куда я влезу, далеко же ехать домой». Ну, он пошёл как бы садиться. А я выскочила. А он заругался и говорит: «Больше никогда не буду к тебе приезжать», и больше никогда он мне не снился.

Снился ещё двоюродный брат, когда он ещё не умер: вроде я иду в магазин, смотрю лес горит, а горит молодой лес, а через месяц говорят, что брат умер.

***

Знаете, были тут такие чародеи. Тут была такая женщина, у меня было 2-е детей. Ну, я пошла на работу, и оставила дочку со свекровью. Раньше не было 3 года декретного отпуска, а сразу после родов иди в колхоз работай. И эта женщина пришла к нам, старенькая, но она была очень плохая ведьма. И она пришла к ней, к свекрухе, и она там с этой девочкой. Ну, она что-то там, я не знаю, что она там сделала. Я прихожу с работы, а свекровь ходит и носит эту девочку, а она уже не кричит, а только уже пищит. А я уже с этим сталкивалась и говорю: «Кто был?», а она назвала кто. Я взяла и пошла туда, зашла и говорю: «Ты такая старая такая сякая иди моему ребёнку делай что-то. Что ты сделала моему ребёнку?». А муж сидит и говорит: «Мария, возьми там палка есть и палкой по горбу, а нет я сейчас встану. Я сейчас ей дам, как ходить по чужим детям».

И она, знаете, пошла туда к нам. Взяла она, как мы говорим, дыркач, не дыркача целого, а просто немножко и пошла. А я иду позади и с ней там ругаюсь. А она побежала бегом. Что она там делала, что-то шептала, что-то била этим дыркачом. А потом уже моя дочка вздохнула и заснула. Спала до самого вечера. «Ну — говорю — так смотри, если ты ещё так придёшь, я тебя убью, если не застану, то все равно убью, я тебе ничего не буду больше говорить. А дома у нас тоже были ведьмы. Тоже была такая ведьма, что молоко забирала. Мама её вычислила. Мы уже знали, что они так делают. Зайдёт и подоит корову, а уже на следующий день или вечером ты уже молока не надоишь.

*Запіс 2014 г.*

# Аповед пра асіну

*Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія» Карагода Наталля Іванаўна ў в. Ляплёўка Брэсцкага раёна ад ВІРЧЫК Соф'і Філіпаўны (1928 г.н., бел., закончыла 3 класы, правасл., мясцовая) і ЛЯЛЬКО Лідзіі Іванаўны (1957 г.н., бел., выш. адук., правасл., мясцовая).*

— **С.Ф.**: Иисус это Хрыстос, это роспынлы на крэст на осине и видно трясёцца.

— **Л.І.**: Я слышала, что когда Божа Матерь утекала с Иисусом маленьким, его ж хотели убить, и она с ним пряталась. И вот она спряталась под осину, и осина испугалась и начала трястись. Вот она убежала под елку, и елка ее спрятала, почему под Рождество елочку мы ставим, а вот осина до сих пор трясется листьями.

*Запіс 2012 г.*

# Вадохрышча

*Запісала студэнтка 2 курса спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура» АЗН Чамеркіна Ірына Васільеўна ў в. Альха Брэсцкага раёна ад ШМЫДКАЙ Кацярыны Міхайлаўны (1924 г.н., бел., прав., мясцовая).*

— Водохрышча — то вэльмы вэлыке цэрковнэ свято. То свято хрышчэння Исуса Хрыста. Ёго ж хрыстылы в ричцы, и як похрыстылы — и вода в туй ричцы — в Иорданни — стала святэю. От и зара на Водохрышча воду в цэрквах хрыстять. То зара вода в цэрквы, а ранний воду прямо в ричках хрыстылы. От в нас — тоди Буг шэ був открыты — вставалы рано и шлы на ричку. На лёдовы вырубалы крыжа, и батюшка тоди служыв службу. А в конци — тры разы крыжа в тую полынку, шо вырубалы, опустыть, и тоди вжэ вода шчыталася хрышчонэю. Людэ набыралы еи хто в шо, а некоторыи купалыся в полынцы. И тая вода повынна була стояты до следуюшчого хрышчэння. Еи пылы, як дэ хто заболие. А як тыко прыносылы додому — то разом святылы всю хату, подвиръе, скотыну, шоб год був удачны, шоб нэчысть всякую прогнаты.




*Запіс 2009 г.*

# Скарбы Астрамечаўскай «Скарбніцы»

**З рэпертуара ўдзельнікаў сямейна-бытавога аматарскага аб'яднання «Скарбніца» Астрамечаўскага СДК (Кіраўнік: Кацярына АГІЕВІЧ)**



## КИРДЕЙ Валентина Федоровна

*Родилась 15 ноября 1958 г. в д. Ятвезь Барановичского района. В 1975 г. закончила СШ №2 г. Ляховичи. 1975–77 г.г. — учеба в УКК г. Бреста по специальности портниха мужской и женской верхней одежды. В 1978 г. вышла замуж, в браке родила троих сыновей.*

*В Остромечево переехала в 1983 г. 13 лет проработала в Остромечевской средней школе учителем труда и руководителем кружка «Легкая игрушка».*

*Два года работала в колхозе-комбинате «Память Ильича» закройщиком-модельером в цехе шелкографии и два — в цехе по пошиву изделий из меха.*

### ШУМЯЦЬ ВЕРБЫ

Шумяць вербы каля грэблі,
Што я пасадзіла.
Няма тога казачэнька,
Што я палюбіла.
Няма яго і не будзе.
Паехаў у Адэсу,
А мне сказаў: «Расці, дзеўка,
Да майго прыезду».
Расла дзеўка, расла красна,
Расці перастала.
Ждала, ждала казачэньку
Ды плакаці стала.
Плачце, вочкі, плачце, кары, —
Така ваша доля.
Палюбіла казачэньку,
Пры месяцы стоя.
Не я яго палюбіла,
Палюбіла маці.
Заставіла сваю дочку
Увесь век гараваці.



# МОИСЕЕВА
## Валентина Максимовна

*Родилась 9 июня 1960 г. в селе Житнивка Камень-Каширского района Волынской области. Закончила среднюю школу в с. Боровне. После школы работала в детсаде г. Камень-Каширский. В 1979 г. вышла замуж. В 1982 г. переехала с семьей в Остромечево. Работала в СПК «Остромечево» на комбинате по переработке сельхозпродукции. Вырастила двоих сыновей. Имеет 4 внуков. С детства любила петь.*

*В 2015 г. вышла на пенсию.*

### СОРОЧКА



Сорочку білу вишию шовком,
В холодну воду намочу.
Пливи, сорочко, де ходыть милий,
Скажы що я його люблю.
А як одінеш мій подарунок,
Прічепеш кучері свої,
Прийди до мене, я буду ждати,
Там, де щебечуть солові.
А як не візьмеш цей подарунок,
Невже розлюбиш ти мене,
Сорочка буде тобі на згадку
Коханне вірнее мое.

***

Я в середу родилася,
Кажуть люди: горе.
Не піду я за старого,
Бородою коле.
А піду я за такого,
Що не мае уса.
Він до менеківне, моргне,
А я засміюся.
Мила хату, мила сіни,
Тай засміялася.
Выйшла маты воду брати,
Тай догадалася.
Знаю, доню, знаю, рідна,
Чому ти сміеся.
Полюбила козаченька,
Тай не признаеся.

## ПЕТРОВА Нина Евгеньевна



*Родилась 4 ноября 1938 г. в поселке Правдинск Горьковской области. В младенческом возрасте попала в осажденный Сталинград. Родители погибли. Воспитывалась в детском доме. Там же окончила 7 классов и поступила в сельскохозяйственный техникум. Получила профессию зоотехника. По распределению работала 16 лет в Волгоградской области. Затем по семейным обстоятельствам в 1973 г. переехала в Белоруссию — на племзавод «Ружанский» Пружанского района, где провела более восьми лет. С 1981 по 1994 г. — на комплексе по откорму крупного рогатого скота в Остромечево. После выхода на пенсию в 1994 г. трудилась на различных должностях, в т. ч. — комендантом поселка Остромечево.*

### ПО МЕЛКИМ КАМУШКАМ

По мелким камушкам бежит ручей,
Я парня встретила, а он ничей.
А он ничей меня обнял,
У двух рябин поцеловал.
По той тропиночке подружка шла.
Она неверного его ждала.
А он ничей ее обнял
И как меня, расцеловал.
Судачат кумушки о нас двоих,
Что две подруженьки, один жених.
Чей свадьбе быть, кого венчать,
Кому любить, кому страдать.
По мелким камушкам бежит ручей,
Мы обе замужем, а он ничей,
А он ничей совсем один,
Как тот ручей у двух рябин.



# Загадкі з вёскі Кустын

*Запісала студэнтка I курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія»*
*Шамяціла Юлія Генадзьеўна ў в. Кустын Брэсцкага раёна*
*ад Карпук Марыі Іванаўны (1925 г.н.), Драб Зінаіды Станіславаўны (1927 г.н.),*
*Саплевіч Веры Паўлаўны (1922 г.н.), Янчук Ганны Федараўны (1931 г.н.).*

- Паўзун поўзэць і іголкі вэзэць ***(вожык)***
- На гору бэгом, а з горы кувырком ***(заяц)***
- Малы, рыжы, з доўгім хвастом, жывэ на дрэве, грызэ шышкы ***(вавёрка)***
- Які звер астаўляе пасля сябе птушыныя сляды? ***(выдра)***
- Семсот муляроў зробылы дом бэз вуглоў ***(мурашкі)***
- Шчо за дрэво, шчо кожны дзень з яго одын лісток падае? ***(каляндар)***
- У бацькоў і дзетак усё адзенне з манетак ***(рыбы)***
- Хоць малы, з кулак, але ў руку нэ возьмэш нэяк ***(вожык)***
- Нэ рыба, а плывэць, нэ конь, а ходыць, нэ піла, а рэжыць ***(бабёр)***
- Высыць сіто, нэ своімі рукамы зшыто ***(павуцінне)***
- Ходыць цар по гародзе, носыць два бліны ў бородзе,
  а трэці на головэ ***(певень)***
- У вадзе купалася ды сухой засталася ***(гусь)***
- Нос доўгі, голос тонкы, хто яго зоб'ець, той кроў свою прольець ***(камар)***

*Запіс 2009 г.*

# Прыказкі

*Запісала студэнтка I курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія»*
*Багамолава Кацярына Аляксандраўна ў в. Кустын Брэсцкага раёна*
*ад БРЫК Яўгеніі Нікіцічны (1939 г.н., пісьм., правасл., мясцов.).*

- Як на Стрэчанне петух ноп'ецца водіцы, то на Юр'я карова наесца травіцы
- Колы на Юр'я мороз — будэць добры авёс
- Колы на Юр'я будэць роса — хопыць коням аўса
- Кулы на Пятра дождж — будзе жыто, як хвошч

***Заўвага:*** *матэрыялы раздзела захоўваюцца ў вучэбна-фальклорнай лабараторыі БрДУ імя А.С. Пушкіна (кіраўнік І. Швед), а таксама ў фальклорным архіве Метадычнага цэнтра (кіраўнік В. Карака) аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі (кіраўнік Л. Балашова) Брэсцкага райвыканкама. Вытрыманы стылістыка і арфаграфія аўтарскай мовы.*

# Народныя жарты

*Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія» Чанчавік Наталля Іванаўна ў в. Прыбарава Брэсцкага раёна ад ПЕНЦАК Надзеі Іванаўны (1952 г.н., бел., прав., мясцовая).*

Ходыть бусён по болоти
Гоныть жабу до роботы.
Жаба кажэ: «Ны пыду!»
Бусён кажэ: «Завыду!»
Бусён кажэ: «В морду дам!»
Жаба кажэ: «В суд подам!»

*Запіс 2010 г.*

# Жартоўныя песні

**Ішоў кум па сялу...**

Ішоў кум па сялу,
Кума па гародзе,
Нясе кум чапялу,
Кума скавароду.

Кум дроў насячэ,
Кума бліноў напячэ.
Кум бліноў не хоча,
Каля кумы рагоча.

# Лічылкі

*Запісаў студэнт І курса спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Гісторыя» В.В. Супрунюк у в. Гута Брэсцкага раёна ад СУЗДАЛЬСКАЙ Кацярыны Мікалаеўны (1931 г.н., пісьм., правасл., мясцовая).*

Сядзіць немец на паліцы,
Лічыць дзеці на вуліцы:
Айн, цвай, драй,
Міша, вылятай.

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі.
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

Эна, бэна, рэсь,
Кэнтар, мэнтар, жэсь.
Эна, бэна, раба,
Кэнтар, мэнтар, жаба.

А ты коцік не гуляй,
Начовачкі прыбірай!
Начовачкі слізкі,
Вядзёрачкі блізкі.
Круг абарваўся,
А ты так астаўся.

Раз, два — булава,
Тры, чатыры — прычапілі,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — сена весіць.

*Запіс 2008 г.*

# Рассказ Веры Фоминичны Брынзы из д. Люта про сны, душу и райские врата

*(Продолжение. Нач. в №4 (16), 2016 г.)*



Брынза Вера Фоминишна, 1949 г.р., д. Зводы, окончила 10 кл. средней школы, православная.

*Записала Ирина Займист,*
*студента филологического факультета*
*БрГУ им. А.С. Пушкина*

## Про сны

— *А муж ваш к вам во сне приходил?*

— Поначалу, снился немножко. Когда привезли хоронить его домой уже, родились близнята. Два мальчика — Глеб и Богдан. И у мальчика была опухоль яичек. Большая-большая опухоль яичек. Кто им сказал... они приезжают в тот день, когда уже хоронить и просят: «Можно, нам сказали, говорить молитву и чтоб покойник мизинцем-пальцем прижать? Он как-бы заберет». Ну, говорю, если поможет... Ну что, у него я уже не спрошу, а люди просят, а просящему дают. Ну и они пришли, бабушка ребенка принесла, она молитву заговорила «Отче наш» 3 раза, мизинцем прижала. Через неделю отвезли ребенка в больницу и все. До сих пор, такие парни повырастали. Никакой болезни.

Через неделю после смерти он мне приснился. Вроде он здесь на кухне у меня. И на нем такой грязный-грязный детский шарфик.

— *Детский?*

— Да, детский. Я говорю:

— Вася, а чего ты такой грязный шарфик одел? Зачем он тебе?

— Нет, я скоро его сниму. Пусть будет. Скоро я его сниму.

И все. Потом он мне второй раз приснился. Как-то переживаешь, как самой жить. Живешь в деревне, одна, и дрова надо, и то надо. Как-то поплакала и легла спать. И снится мне и говорит:

— Как мне надоели эти командировки на Землю. Вера, у тебя такая большая космическая связь!

Так серьезно сказал. Я как проснулась, аж меня... Потом он долго-долго не снился. А потом как-то была на кладбище, а у сына с работой как-то не ладилось немножко. Он в «Белле» работал. Что-то не получалось постоянно, на подменах все был. А я говорю на кладбище: «Вася, ну ты ж кажешь, что тебе надоели эти командировки. Ну не едь ты в эти командировки, помоги сыну!». И через два дня он мне снится. Стоят фуры длинные. И он так подгоняет... И я стою рядом. А он меня так поднял, поставил на эту эстакаду, а сам пошел, достал 6 яблок, большущих таких. И дал мне. А я говорю:

— Ну, возьми и меня с собой в эту машину!

— Нет! Ты туда пойдешь! — и показал

в другую сторону. И все. Сам сел в машину и в другую сторону уехал. И тут сын нашел работу, ездит.

*— А родители? Не приходили во сне?*

— Видела маму и папу. Мама у меня на руках умирала.

*— А не было такого, что мама сама уже чувствовала, что все. Снов, предсказаний каких не было?*

— Было. Она как-то, я в городе работала, приезжаю с города, а она говорит:

— Наверное, все, я умру скоро.

— Ну, мама, ну ты что, 51 год! А перед этим папа умер 3 года назад. Говорит:

— Папа мне построил такой тесный домик, без окон, без ничего. Ну, такой, такой тесный.

— Ну, мама, ну не может быть!

*— Во сне?*

— Да, ей приснилось. Во сне. И потом ни с того, ни с сего ей плохо, в больницу отвезли и все.

*— То папа ее к себе забрал?*

— Да.

*— А в доме перед смертью ничего не происходило? Может, икона упала или еще чего?*

— Когда я еще девчонка была, приехала с города к маме. Легла спать. Луна в окно светит. Встала ночью, а там старенький домик, окно маленькое. Беру подушку, а подушка большая такая. Я поставила ее туда. А мама смотрит, что я ту подушку и к окну иду, думала уже, что луна сильно на меня. (*Смеется*) Говорит:

— Вера, ты куда?

— Подушку поставила, луна в глаза светит.

Ну и все, легла, уснула. И слышу такой хлопок-выстрел! За окном этим. Думаю, что ж такое. А папа в больнице был как раз в то время. Говорю:

— Мама, кто-то перед окном стрелял у нас.

— Я не слышала.

Как с пистолета. И в воскресенье я уехала на работу. А в среду мне позвонили на работу, что папа умер. А маму, вот мне кажется, где не иду, то все ее хороню.

*— Когда лучше, какие растения сажать, как на луну смотрят?*

— Ну-у, на растущую лучше зерновые, помидоры, огурцы — все то, что растет над землей, созревает и все. На уходящую луну, хорошо все то, что в земле растет: морковку, лук и такое все.

## Про душу

*— А животные могут иметь душу?*

— Ну, мне кажется у всех есть душа. У меня, вот, например, кот, Мымрык. Он у нас уже 8 лет живет. Стоит нам уехать куда-то, нормально спит, допустим, на работу в город. Но стоит не приехать вовремя, будет уже висеть на калиточке.

*— А куда души животных деваются?*

— Ну, наверное, переселяются куда-то. Вы зайдите в лес и тихонечко прислушайтесь к деревьям. Никого нигде нет, а будет лететь птичка, ворона... кар-кар-кар. И будет сообщать кому-то, что ты здесь есть. Косулька сидит в ягоднике со своим этим козленком. Ворона развернулась, «кар-кар-кар!» – сообщила, что ты здесь.

У меня муж. У него есть желание вечером сесть на крылечке и курить. А собачка наша, Жулька, будет прыгать перед ним, лаять «не кури!». Если что-то плохое сделает, шкодное, будет в сторонке, а когда прощаешь, будет бежать, ноги облизывать.

Возьмите корову. На лугу пасется. Вечером выйдешь с куском хлеба: «Ланька-Ланька!», — и она через заборы прыгала. Оно же тоже понимает, мозги есть.

*— А растения могут иметь душу?*

— Естественно! У человека кровь движется по венам, у них сок идет. Кору надрежьте — сок вытекает, а у человека кровь. Посадите куст, не ухаживайте за ним. Он зачахнет. Так же и человек. Посади, не дай есть, пить, он тоже не сможет.

*— А можно забирать к себе домой цветы из дома умершего?*

— Мертвому цветы живые не носят. Их все везут на кладбище.

*— А вазоны?*

— И вазоны, их тоже везут на кладбище. Гроб стоял, они напитались.

*— А с кладбищ несут?*

— Нет, нельзя трогать.

*— А почему?*

— Ну, там слишком много слез, рыданий, сильно много отрицательной энергии. И вообще, дали туда, пусть там и будет. Это такая зона с отрицательной энергией. Почему старые кладбища, мы же не знаем где когда-то, 100–200 лет назад, хоронили. А там же были деревни. Вот у нас орховский лес. Там же раньше была деревня Орхово. А потом вот эти сады, семена сеялись-сеялись. Где раньше деревни были? Где вода текла, где влага. Там селились. Поэтому вырос лес. Заходишь в тот лес, кажется, километр туда. Иногда заблудишься так, будешь ходить кругами. У нас тут курганы еще есть шведов. Вот, бывает, в лес вхожу. И бывает, что кругами будешь ходить.

*— А птицы есть?*

— Есть. Там бывают такие птицы, они как плачут. Вот если попадаешь два раза на одно и то же место, сразу читай молитву «Отче наш». Снимай с себя, если в халате, халат, выворачивай наизнанку, одевай и дальше: «Боже, помоги выйти». И все.

*— И выйдешь?*

— Выйдешь.

*— А почему нельзя вечером ходить на кладбище?*

— Ну, потому что вечером там фосфор выходит, свечение это. Оно же ядовитое. Подойдешь, можешь глотнуть, отравиться, сознание потерять. Желательно не ходить ночью. Я вообще считаю, что на кладбище нужно ходить в определенные дни. Это их территория. Пусть.

*— А где их души? На кладбище или где?*

— Нет. Там тело. Там земля, а душа – это энергия. Ну, может, в них этой энергии и остается немного, но я считаю, что энергия — это больше к солнцу относится. Энергия она сама по себе теплая. Почему покойник мертвый, холодный? Потому что с него энергия уже вышла. Вот туда, к солнцу... Из земли слепили, туда и пойдешь.

*— А покойника встречают другие мертвые?*

— Встречают. Энергия там, сгустки энергии... Вот они там... Почему впереди покойника идти нельзя?

*— Почему?*

— Ну, потому что вот, ты идешь, ты ему путь преграждаешь туда. Они ж там встречают, кто надо, чтоб его встречали.

*— Родные или все?*

— Все.

*— А как раньше люди вставали? Как день распределялся?*

— После третьих петухов. Это утром, рано. Когда сенокос, жниво или посадка, люди рано вставали — с первых петухов. Это после 3-х часов ночи. Они вставали, потому что были же печки, газовых не было. Надо ж приготовить и свиньям, хозяйство же, и детям. А раньше семьи большие были, по четверо, по пятеро детей. Надо ж приготовить было борщ какой, молочное... хлеб испечь. Осенью в 6 утра первые петухи были. В 6 утра мама нас будила и по очереди доили корову.

*— А в обед работали?*

— Нет. Обед есть обед. Люди приходили. Лето всегда раньше было теплое и горячее. Люди с утра пололи огороды, пока солнце поднимается. В обед животных загоняли, корову, чтоб оводы не закусали. Или может в лесу черная жаба выдоить. Поэтому загоняли в это время, в обед.

*— А из дома вечером мусор выносили?*

— Нет, не выносили. Ну, добро свое вынесешь, вроде. И отдолжать нельзя вечером. Вот если деньги отдолжают, даешь крупными деньгами, пусть и отдают

крупными. А то у нас люди мелкими, все чтоб у тебя не велось.

*— Говорят, на большие праздники приходят отдолжают?*

— Да, приходят, возьмут кастрюлю и не вернут, чтобы у тебя не было, а у них было. Стараются забрать. Надо говорить. В наше время надо говорить. Не надо придумывать ничего. Завтра придешь — дам, а сегодня нет.

*— У беременных, когда душа появляется у маленького?*

— Сразу.

*— А если аборт делать, что будет с тобой потом?*

— Ну, это грех большой, как за убийство.

*— А куда души этих убитых?*

— Никто не знает. Ну, конечно, они ж не крещеные даже. Говорят, что снится потом ребенок маленький, плачет, где-то плохо ему или в сторонке: все детки играются, а он в стороне. Вот до Спаса нельзя есть яблоки, когда у кого детки поумирали или аборт. До Спаса нельзя. А у меня на Спаса сын родился.

*— А, говорят, на большой праздник умирать хорошо. Почему?*

— Райские ворота открыты.

*Запись 2014 г.*

(фото слева на право)
1) Вера Брынза (Седун), 18 лет
2) Василий Васильевич Брынза (умер в 1997 г), Вера Фоминична Брынза и сын Андрей. 1976 г.
3) Анна Петровна Седун (в центре) и дети Вера, Иван и Ольга. 1968 г.
4) Семья Седун – Анна Петровна и Фома Фомич с детьми. 1952 г.
5) Семья Седун (глава семейства в форме лесника). 1955 г.
6) Ростислав Фомич Седун с родственниками. 1976 г.

## Из семейного альбома Веры Фоминичны Брынзы из д. Люта





# Фотапозірк Сяргея Хмеля











Здымкі зроблены ў аграгарадку Астрамечава

# «Як пачуеш жаваранка, то спадзявайся — скора вясна»

## *Народныя ўяўленні пра жаўрука*

Жаўрук традыцыйным мысленнем беларусаў успрымаецца як «чыстая», «добрая», «божая», «першая», «ранняя» птушка. Адпаведна існуе строгая забарона гэтую апавітую асабівым шанаваннем птушку забіваць і ўжываць у ежу. ***Высокі сакральны статус жаўрука*** пацвярджаюць этыялагічныя легенды, паводле якіх гэтую птушку стварыў Бог. Ён сам (ці па яго волі Адам) падкінуў у неба камячок зямлі, з якога і ўзнікла маленькая птушачка, надзеленая здатнасцю прыгожа спяваць і «весяліць» душу чалавека. Мэта стварэння жаўрука Богам можа непасрэдна тлумачыцца ў легендзе — першая птушка павінна дапамагчы перажыць адзіноцтва першаму чалавеку — Адаму. На Берасцейшчыне апавядаюць: «Як Адам і Ева саграшылі, іх із раю Бог выгнаў. А тады што было есці? Бог ім даў зярна, каб яны пасеялі. Адам пасеяў, а Ева ўжэ дома была, дзяцей ражала. А ён жыта сеяў. А яму было скушно-скушно. На сьвеце адзін ён, адзін чалавек на сьвеце — Адам. А Бог так даў, каб ён узяў горстку зямлі, выкінуў угоры — і сталі вераб'і і пцічкі гэтые. Ці жаваранкі, якта іх называлі, Бог іх знае. І вот стаў яму жаваранак, і яму стала весялей. Ён сеяў гэто жыто, і сталі так жыць, і гэто як былі ў іх дзеці і ўсё на сьвеці. <...> І што дзе Адам ні рабіў, ён за ім ўсё лятаў во так павярху... Канешна, жаваранак. Гэта першая птіца» [4, кн. 2, с. 379–380]. Весялосць, бесклапотнасць, удзячнасць Богу як характэрныя рысы жаўрука

Прафесар Іна Швед (у цэнтры) сярод студэнтаў БрДУ імя А. Пушкіна





прадстаўлены і ў іншых матэрыялах, прыкладам: «Няма весялейшае птушкі за жаваранка, не затым, што ён весела пяе, а для етага, што песню сваю выгалашуе тады, калі другая, насупіўшыся, жджэ, покуль ёй сонца ў спіну прыпячэ. Ён рад таму як есцека, дзякуе Богу за ўсё і сам па сабе і ад усіх людзей» [3, с. 123].

Жаўрук, непрыкметна падняўшыся ў неба, заўсёды імкліва «каменем» падае на зямлю, нібы пацвярджаючы сваё «паходжанне». Матыў узлёту да неба (і бойкі з Богам) складае аснову матывіроўкі славеснай імітацыі спеваў жаўрука: «Палячу, палячу на неба, на неба, // Схаплю бога за бараду, за бараду», а калі падае ўніз, то нібыта гаворыць: «А бог мяне кіем, кіем... // Тры, тры, тры!» [1, с. 168–169]. У Ляхавіцкім раёне святасць жаўрука тлумачыцца тым, што гэтая птушачка даставала калючкі з вянка ўкрыжаванага Хрыста (падобна, як гэта рабіла ластаўка). «Як Хрыста распялі, то жаваранак выцяг з яго галавы абкроўлены шыпочак да й занёс да Бога, штоб паказаць, як погань знушчаецца над яго святым сынам, але Бог сказаў, што ета ўсё з яго волі. Жаваранак рассердзіўся на Бога за тое, што не ўняўся за Хрыста, і досі пагрожуе, што пойдзе Бога біць, але жаваранку няма за тое нічога, бо ён сердзіцца з жаласці добрага сэрца... «Пайду Бога біць, пайду Бога біць!» — крычыць, узнімаючыся ўгору, з галінкай ці саломкаю ў лапцы. Затым галінку тую кідае і, імкліва спускаючыся на зямлю, выкрыквае: «Кій упаў! Кій упаў! Кій упаў!» [3, с. 123]. Тым, што жаўрук «дзёўб калюшчу провалаку», якая была на лбу Хрыста, благаслаўлёнасць і першынство птушкі тлумачаць і сучасныя жыхары Берасцейшчыны: «Прыляцеў жаваранак першы. Ісус Хрыстос быў на хрысце. Жаваранак прыляцеў, а ў Хрыста была провалака на лбу, така ледака калюшча. Прылецеў і дзёўб, дзёўб, і выцягнуў тую калюку. Бог даў яму, каб першы прылятаў сюды да нас» [4, кн. 2, с. 408].

Першынство жаўрука звязна і з уяўленнем пра яго з'яўленне ранняй вясной, з прыпісанай яму функцыяй першага вестуна цяпла, вясны. На трэці дзень пасля першага спеву жаўрука чакалі надыход цяпла: «От колы пташка [жаўрук] ў небі спявае, то праз тры дні будэ одліга» (Сялец, Бярозаўскі р-н). Тое, што жаўрук першым вяртаецца з поўдня, сцвярджаюць парэміі тыпу: «Жаўранак прылятае на праталінку, шпак на прагалінку, жораў з цяплом, ластаўка з лістом».

Звычайнага жаўрука не адрознівалі ад жаўрука чубатага, так узнікла паданне, нібыта жаўрук не ляціць у вырай, а ператвараецца ў чубатага і зімуе тут, шукаючы корму на сметніках каля людскіх сяліб, адсюль і мянушка чубатаму «смяцюх» [1, с. 168–169]. Жаваранак свой спеў пачынае так рана, што калі-нікалі мусіць яго перапыняць, як раптам зноў пачынаецца серыя маразоў. Таму сцвярджаюць, што ён не ляціць у вырай, а праводзіць зіму дзесьці паблізу. Мо ў мароз хаваецца ў дупле, у сухі мох, а мо сядзіць у снягу, як цецярук. Апавядалі таксама, што жаўрук усю зіму спіць недзе пад

каменем або на мяжы ў полі, а таму, не чакаючы сапраўды цёплых дзён, раней за ўсіх іншых птушак — на 8–9 тыдні пасля Каляд — спявае пра хуткі надыход вясны [3, с. 123].

Паводле іншых уяўленняў, жаваранак вылятае з цёплага краю на Саракі. На Берасцейшчыне прылёт жаўрука прымеркаваны да дня св. Аляксея. У некаторых мясцовасцях лічылася, што першы раз жаўрук павінен заспяваць ужо ў чацвер Масленага тыдня. Па часе першага ў годзе з'яўлення жаўрука меркавалі пра надыход цяпла: «Як жаваранак першы раз вылеціць на Мацея (24 лютага), то зіма хутка спацее»; «Калі на трэцяй або на пятай нядзелі па Калядах пакажуцца жаваранкі, то яшчэ зіма доўга пацягнецца». У метэаралагічных прыкметах увага можа акцэнтавацца на характары спеву жаўрука, месцы, часе сутак, прыкладам: «Жаўранак на дождж пяе рана, седзячы на скібе раллі або на камені»; «Як смецюх (у розных мясцовасцях — жаваранак, верабей, зяблік, аўсянка, канаплянка) крычыць, то холад будзе» [3, с. 209, 213].

Жаўрук выступае адмысловым пасярэднікам паміж зямлёй («роднай старонкай») і выраем і ўлучаны як дзейны персанаж у кругазварот у прыродзе і жыцці чалавека. На Саракі адмыслова адкрываўся вырай і адтуль прыляталі жаўрукі, прыносячы вясну. Нездарма «жаўрукова тэма» так шырока прадстаўлена ***ў веснавой абраднасці***. З прымеркаванасцю прылёту жаўрукоў да Масленага тыдня ці «Саракоў», звязана практыка выпякаць у гэты час «жаваранкаў» і раздаваць іх дзецям: «Пеклі жаваранкаў — гэто посныя булачкі ў форме птічак. Для деток гэтыя жаваранкі ў посныя дні былі



вялікім задавальненнем» (Пагранічная Камянецкага р-на); «От затым у гэты дзень жанкі пякуць малыя патапцы й называюць іх жаваранкі. Жаваранкі абліваюць аслоджанай вадой і даюць іх дзіцям». Заклінаючы вясну, дзяўчаты і маладзіцы падкідвалі іх ўгару, з імі ў руках спявалі вяснянкі, залязалі з імі на хлявы і г. д., у той час мужчыны акампанавалі жанчынам на пастухоўскіх берасцяных трубах. Гэтае ж печыва давалі жывёле, «каб яна была здаровай і добра пладзіла», частавалі адзін аднаго, «каб не хварэць улетку». Акцыянальная практыка з «жаўранкамі» ўваходзіла ў шырокі тыпалагічны шэраг дзеянняў з прадуцыравальнай семантыкай — іх пакідалі ў засеках з зернем [1, с. 168–169]. Выпечаныя з цеста жаўрукі ў веснавой абраднасці, звязанай з гуканнем вясны, магічным чынам выцяснялі з чалавечай прасторы холад, зіму. Жыхарка в. Боркі апавядае: «на Масленіцу піклі не бліны ў нас, а піклі жаваракоў, такія бы пцічкі-булочкі. А вечарам дзеці ходзілі зіму прогоняць. Од Міхося і до Нопаеных, аж до леса гонілі, туды з запада на восток. А много назбіраецца дзецей, одны — по одному боку, другія — по другому, і прыговорвалі: «Ідзі, зіма, до Косова, // Там тобе сена паношена. // Ідзі, зіма, ў Заполле, // Там пірогі на колле. // Ідзі, зіма, на вулочку, // Там тобе додут булочку» (Бярозаўскі р-н).

Апякунская функцыя жаўрукоў ускосна высвечваецца ў звароце да іх — «матушкі»: «Жаворонушкі, нашы матушкі, // Прылэтітэ к нам, // Прынэсітэ нам вэсну красную» [4, кн. 1, с. 102]. У «птушыных заклічках», вяснянках на жаўрукоў ускладаюцца надзеі, што яны «прыбіруць» зіму і прынясуць лета, абудзяць і напояць зямлю, г. зн. забясречаць яе ўрадлівасць: «Жавароначкі, прыляціце, // Цёпла лецейка прынясіце, // А зімачку прыбярыце, // Бо зімачка надаела, // Нам хлебушак пераела. // Жавароначкі, прыляціце, // Зямлю-матушку абудзіце // І дожджыкам напаіце, // Каб травачкі парасцілі, // Каб волікаў накармілі. // Жавароначкі, прыляціце, // Цёпла лецейка прынясіце, // А зімачку прыбярыце, // Бо зімачка надаела, // Нам хлебушак пераела» [2, с. 155]. Сам жаўрук пры гэтым актыўна выганяе-знішчае зіму: «Жаворонок, ранняя пташочка, // Чого так рано з выраю вылятаеш? // А там пры дорозе — снягі ды морозы! // А я тыя морозы ногамы растопчу» (ФА; Кустын Брэсцкага р-на). «Гэтыя дзеянні жаўрука відавочна перагукаюцца з наступным элементам веснавой абраднасці Слонімшчыны, Мазыршчыны: моладзь рабіла са снегу вялікага снегавіка, разбівала яго на часткі і таптала нагамі, «каб зіма знікла на дзевяць месяцаў» [1, с. 169].

Звяртае на сябе ўвагу паэтычна-песенная матывацыя прылёту жаўрука з выраю — ён «прымусова», гнаны іншымі птушкамі, вяртаецца на радзіму: «— Не сам жа я выйшаў — // У мяне пташкі былі, // У мяне пташкі былі, // З выраю ганілі». У такіх веснавых песнях актуалізуецца характэрны для замоў матыў заахвочвання міфалагічных персанажаў да пераходу ў іншы свет абяцаннямі розных дабротаў, якія нібыта іх там чакаюць. У веснавых песнях — гэта шмат («па самыя крыльца») вадзіцы, «гарошку па самы дзюбочак», «травіцы па самы каленца», салодкія ягады, прыкладам: «Ой ты, жаворонку, // Рання пташычка. // Ой чого ты до нас // Рано прылытаеш? // — Мэнэ пташкы былы, // З выраю гонылы: // — Лыты, жаворонку, // У свою сторонку. // Там тобі травыця // По самыі крыльця, // Там тобі водыця // По самыі колінця, // Там тобі ягодкы // Чырвоны, солодкы» (Вялікія Балоты Кобрынскага р-на)

(Гл. таксама цытаваны вышэй зварот да зімы, якую «заманьваюць» «пірагамі-булачкамі» ў чужыя вёскі).

Паводле парэміі, ранневеснавое з'яўленне жаўрокоў — вынік дзейнасці святога: «Сьвяты Вайцеху выпусціў жаўранка з меху». Маюцца і іншыя сведчанні пра пэўную несамастойнасць жаўрука падчас перамяшчэння ў «сваю старонку». Так, лічаць, што жаўрукоў з выраю прыносяць журавы. У Старадарожскім раёне занатавана этыялагічная легенда, якая тлумачыць абавязак журавоў пераносіць пад крыламі жаўранкаў тым, што жаўранак згадзіўся забраць спеў жураўля: «Журавель калісь сьпяваў такім голасам, як сьпявала жаўранка. Ён на жаўранку і кажа: «Давай памяняем галаса. Ты мне свой аддай галасок, а я табе аддам свой», — еты ўжо журавель. Яна і аддала свой голас. «А што ты мне плаціць будзеш?» «— Да сьмерці... І патомства тваё будзе насіць маё патомства ў вырай пад крылом. І з вып'я пад крылом». І вот вы, дзеткі, палядзеце: як ляцяць жураўлі, так лятаюць і маленькія жаўранкі. Эта журавель прынёс іх. Ён клятву даў насіць» [5, с. 435–436].

***Станоўчая ацэнка жаўрука, яго сувязь з ідэямі плоднасці, працягу рода*** выразна выяўлена ў меркаванні, што жаўру так спявае, што жыта паднімаецца ўверх, а таксама ўнародным тлумачэнні сну: жаваронка бачыць — будзе вяселле ці зацяжарыш.

Такім чынам, жаўрук у бальшыні кантэкстаў сімвалічна асацыюецца з першымі членамі апазіцый «добрае — дрэннае», «спрыяльнае — не спрыяльнае (для чалавека)», «вясёлае — смутнае», «праўдзівае — ілжывае», «плоднае — бясплоднае», «здаровае — хворае», «цяпло (вясна) — холад (зіма), «першы — апошні», «святы — дэманічны» і мае пазітыўную ацэнку. Функцыянальнасць жаўрука як медыятара звязана з уяўленнямі пра далучанасць як да нябеснай, боскай, сферы, так і хтанічнай, што, па-першае, тлумачыцца яго паходжаннем з камячка зямлі, падкінутага ў неба, а па-другое — «сезоннымі пераходамі» — знікненнем яго на зіму і раптоўным з'яўленнем (з выраю ці з-пад камянёў) ранняй вясной. Нягледзячы на богаборчыя матывы і хтанічныя канатацыі ў «тэксце жаўрука», у сімволіцы гэтага арнітавобраза пераважае нябесны пачатак. Функцыянальнасць птушкі, найперш, звязана з яе ўлучанасцю ў магічныя кантэксты паскарэння надыходу вясны, прадуцыравання ўраджайнасці, плоднасці, вітальнай патэнцыі ўвогуле.

***Іна ШВЕД,***
***доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна***

## Літаратура:

1. Валодзіна, Т. Жаваранак / Т. Валодзіна, Л. Салавей, С. Санько // Міфалогія беларусаў. Энцыклапедычны слоўнік. — Мінск : Беларусь, 2011. — С. 168–169.
2. Веснавыя песні / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1979. — 608 с.
3. Зямля стаіць пасярод свету... Беларускія народныя прыкметы і павер'і: у 3 кн. / уклад. У. Васілевіча. — Мінск : Маст. літ., 1996–1999. — Кн. 1. — 1996. — 591 с.
4. Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 4. Брэсцкае Палессе. У 2 кн. / ідэя і агул. рэдагаванне Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск : Выш. шк., 2008–2009. –Кн. 1–2.
5. Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 5. Цэнтральная Беларусь. У 2 кн. Кн. 2 / ідэя і агул. рэдагаванне Т. Б. Варфаламеевай. — Мінск : Выш. шк., 2011. — 911 с.

# «Ой, калядачкі, бліны-ладачкі!»

**Накануне Нового года издан каталог лучших работ победителей и участников районного конкурса детского рисунка «Прибужские Коляды–2017», организованного в рамках республиканской акции «Наши дети» Брестской районной организацией ОО «Белорусский фонд мира» при поддержке районного отделения ОО «Белорусский союз женщин», отделов идеологической работы, культуры и по делам молодежи, а также образования, спорта и туризма Брестского райисполкома. Автор идеи и куратор проекта — Людмила ЖУКОВИЧ, председатель Брестского районного Совета депутатов.**



Дорогие юные друзья!

Вы держите в руках каталог творческих работ юных художников, который увидел свет благодаря Вашему активному участию в конкурсе «Прибужские Коляды–2017». Проведение конкурса получило старт в рамках республиканской акции «Наши дети» при поддержке ОО «Белорусский фонд мира» и ОО «Белорусский союз женщин».




«Прибужские Коляды–2017» является еще одним творческим соревнованием юных художников, площадкой, где все вы смогли проявить свои возможности, открыть внутренний мир для окружающих. И его результаты подтвердили, как много у нас ярких, интересных, самобытных талантов! Глядя на ваши рисунки, мы, взрослые, понимаем, сколько задора, веселья и надежды несет ваше творчество!

Сегодня вы все — победители, помните, что для победы важны не только мастерство и трудолюбие, но и огромная вера в свои силы. Я желаю всем юным художникам творческого вдохновения, невероятного упорства и убедительных побед в будущем!

**Жукович Людмила Васильевна,**
*председатель Брестского районного Совета депутатов*



**Диплом I степени**
**Каташевич Мария, 9 лет**
Тема: «Мы встречаем Новый год»
**Клейниковская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Жемчужная Анна, 14 лет**
Тема: «Как у нас зимой красиво»
**Клейниковская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Филашова Вероника, 7 лет**
Тема: «Мы встречаем Новый год или зимние забавы»
**ГУО «БШ д. Яцковичи»**



**Диплом I степени**
**Болундь Николай, 8 лет**
Тема: «Как у нас зимой красиво»
**ГУО «СШ д. Остромечево»**



**Диплом I степени**
**Филанович Евгения, 11 лет**
Тема: «Мы встречаем Новый год или зимние забавы»
**Тельмовская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Голанова Вероника, 9 лет**
Тема: «Ночь на Рождество»
**Клейниковская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Полячок Татьяна, 15 лет**
Тема: «Мы встречаем Новый год или зимние забавы»
**Тельмовская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Тарасенко Александра, 11 лет**
Тема: «Ночь на Рождество»
**ГУО «СШ д. Черни»**



**Диплом I степени**
**Канюк Анастасия, 10 лет**
Тема: «Как у нас зимой красиво»
**ГУО «СШ д. Лыщицы»**



**Диплом I степени**
**Петрукович Елизавета, 8 лет**
Тема: «Как у нас зимой красиво»
**Клейниковская ДШИ**



**Диплом I степени**
**Мощук Алина, 14 лет**
Тема: «Мы встречаем Новый год или зимние забавы»
**ГУО «БШ д. Приборово»**



# Гісторыя ЧЭРНЯЎ Брэсцкага раёна

**О! Любы мой, родны куточак!**
**Дзядамі нашымі ўзняты...**
**Душы ты маёй, васілёчак,**
**Мой бусел каханы, крылаты...**

## СЯЛО

— Наша вёска называецца Чэрні (Чырні).

Гісторыя яе ўзнікнення авеяна непраўдападобнымі былінамі, існуючымі з часоў далёкай сівой даўнізны.

Па адной з іх, у гэтым месцы калісьці расло мноства чарніц.

Па другой — тут стаяў жаночы манастыр, манахіні якога апраналіся ў чорную вопратку, таму іх, як звычайна, называлі чарнаўкамі, або «чарніцамі»...



Хатка з 1901 г. на чернінскім завулку





Схема руху войскаў А. Суворава і К. Серакоўскага 17-19 верасня 1794 г. [383].


Старыя вяскоўкі


Паміраючая алейка ў залатую восень

Адсюль пайшла і назва нашага сяла — Чэрні. А так гэта ці не? Гэта можа рассудзіць час і даведкі з архіваў...

З гісторыі вядома, што вакол божых святыняў заўжды сяліліся людзі. Так узнікалі паселішчы, якія зараз называюцца вёскамі, ці сёламі.

Сялом лічылася тое людское паселішча, у якім была царква. А вось вёскай называлі невялічкі гурт сялянскіх сядзіб, які існаваў без царквы.

І так пачнем свае разважанні пра Чэрні.

Пакуль што існуюць некалькі архіўных доказаў таго, што нашы Чэрні — старадаўняе сяло і з цікавай гісторыяй.

Адным з гэтых доказаў служыць карта польскага музея, напісаная на польскай мове і датаваная 17–19 верасня 1794 года, якая размешчана ў кнізе «Касцюшка» Леаніда Міхайлавіча Несцярчука.

Чытаючы кнігу, я і зрабіла сабе гэтае адкрыццё:

На кніжнай карце начэрчаны стратэгічны паход арміі Суворава ад Кобрына цераз Берасце (Brześc) на Варшаву. Палкаводзец вельмі спяшаўся на разгром паўстання Касцюшкі. Каб спыніць яго імклівасць, насустрач яму быў высланы правадыром корпус Серакоўскага.

Добра ўзброяная 11-ці тысячная армія Суворава разграміла гарматным агнём Серакоўскага паміж Кобрынам і Берасцем ля вёскі Крупчыцы.

У паўстанцаў было толькі некалькі гармат, таму супрацьстаяць шквалістаму агню Суворава Серакоўскі не змог і адступіў пад прыкрыццём ночы пад Берасце, дзе і быў канчаткова разбіты вопытным палкаводцам на досвітку новага дня. Далей на карце паказаны шлях Суворава ў Польшчу.

Для нас жа гэтая карта з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю таму, што на ёй значацца назвы ўсіх нашых недалёкіх вёсак. Гэта гаворыць аб тым, што яны існавалі ўжо тады!

На верхнюю частку карты нанесены і нашыя Чэрні. Крыху вышэй — Кавярдзякі, Чарнаўчыцы і Жабінка.

У той час не было яшчэ чыгункі і ні вялікай Маскоўскай шашы. Гандлёвы шлях на карце пазначаны жырнай крывой лініяй, якая праведзена з Берасця на Жабінку праз Чэрні і далей на Ўсход.

Адсюль:

— Самая дарагая каштоўнасць гэтай карты ў тым, што на ёй значацца нашыя Чэрні. Значыць вялікі шлях праходзіў праз наша сяло!

А з гэтага выцякае новая выснова:

— Ён быў вядомым шляхам паміж усходам і захадам Вялікага княства Літоўскага! Таму можна асцярожна сцвярджаць, што па ім везлі ў Варшаву Соф'ю Гальшанскую да караля Польшчы — Ягайлы. Да таго яшчэ можна меркаваць, што тут ездзілі і сам Ягайла, і Францыск Скарына, і пані Валеўская,

і многія другія знакамітасці магутнай дзяржавы...

На карце маюцца знаёмыя назвы вёсак. Там ёсць і Трышын, і Ямна, і Ракітніца, і Шчэбрын, і Вычулкі, і мноства другіх. Гэта гаворыць аб тым, што нашы сёлы існавалі ў «Жэчы Паспалітай», а значыць і раней — у Вялікім Княстве Літоўскім...

У 2003 годзе на Беларусі быў абвешчаны конкурс — агляд на самы прыгожы вясковы населены пункт. Камісія аб'ездзіла ўсю рэспубліку і прызнала нашыя Чэрні самым прыгожым, чыстым і дабрабытным сялом. Таму Чэрнінскі сельскі Савет быў узнагароджаны грашовай прэміяй і пераходным пачэсным сцягам.

З таго моманту прайшло ўжо дзесяць гадоў, а гэты сцяг яшчэ пакуль знаходзіцца па-ранейшаму ў нашым сельскім Савеце...

Другім вялікім доказам старажытнасці нашага сяла з'уляецца нядаўняя звестка, якую даслаў мне з Мінску Антанюк Іван Ігнатавіч. Гэты выхадзец з Чэрнінскай зямлі годны вялікай павагі!

Бусел-юнак





Лета на скрайку сяла

Бо менавіта ён здабыў звестку пра Штэра (чын, імя і імя па бацьку) ў Гродзенскім архіве. Менавіта ён даслаў звестку з кнігі Дзяніса Лісейчыкава «Святар», у якой навуковец надрукаваў першае вынайдзенае ім упамінанне пра царкву нашых Чэрняў яшчэ ў ліпені 1667 года. Гэтая дата звязана з прызначэннем сюды святара Тэадора Смаленскага.

А сам гэты доказ гаворыць аб тым, што ў 2017 годзе нашым Чэрням спаўняецца 350 гадоў!

А гэта — вя-лі-кі ю-бі-лей!

Надыйшоў момант аповяду пра недалёкую гісторыю сяла...

Яшчэ сто гадоў таму назад, невялічкая наша вёсачка размяшчалася на адной вуліцы, якая ў наш час называецца Высокай.

Сялянскія хаткі стаялі блізка адна ля другой. Усе стрэхі былі саламянымі, таму шмат разоў сяло выгарала дашчэнту...

Бывала здарыцца бяда. Запалае агнём чыясьці хаціна... Як на тое, заўжды ўварвецца ў пажар вецер і пачне раздзімаць полымя. Мала таго, перакіне

агонь на суседнюю страху... А тады! Усё сяло імгненна ўспыхвае адным вялізным вогнішчам, якое пагасіць амаль немагчыма.

У апошнім такім пажары, які здарыўся ў час жніва, вёска згарэла ўся!

Быў сонечны гарачы дзень. Усе сяляне жалі на полі збажыну. Нехта з іх заўважыў над вёскай чорны дым. Усе кінуліся ў сяло. Пакуль дабеглі, вецер раздзьмуў такі агонь, што ўсе хаты палалі адным вялізным кастрышчам.

Крык і енк, горкія слёзы перапалоханых дзяцей і галашэнне жанчын, роспач і адчай павіслі ў той дзень над Чэрнямі.

Усе маладыя сяляне, стаўшы ў ланцуг, перадавалі ад калодзежаў вёдры з вадою і стараліся заліваць ёю агонь, але марна...

Як бывае часта ў такіх выпадках, Чэрні згарэлі дашчэнту. На ўскрайку іх засталася адзіная старэнькая і маленькая хатка. Гэтая будынінка і стала прытулкам для дзяцей і немаўлятак усяго сяла. Усе старэйшыя начавалі ў шалашах, ці ў клунях, што дзе-нідзе ўцалелі, стоячы на далёкіх прыгуменнях.

У той дзень, разам з сялом спалала і царква.

Пасля гэтага трагічнага здарэння усе чэрнінцы сабраліся грамадою і вырашылі будавацца аднова. Тым больш, што ўлада абяцала выплаціць дапамогу пацярпелым, якая называлася ў народзе «пажарнэ».

— На гэты раз будзем сяло аднаўляць уроскід па адной хаце! — прапанаваў стараста.

І ўсе жыхары падтрымалі разумную думку.

Пасля гэтага пажару кожны чэрнінец будаваўся на сваёй рэзцы зямлі, але далёка ад суседа.

Усяго ў сяле было тады 52 хаты. А пры новай забудоўлі ўтварылася, акрамя цэнтральнай вуліцы, па якой ішоў шлях на Берасце, яшчэ пяць адгалінаванняў.


Дзве таполі каля дарогі на Селяхі

Зямля ў Чэрнях была неўрадлівая. Сыпучы пясок... У ім любіў віраваць віхурамі вецер. Бывала наляціць з-за лесу, падыме пясчанае воблака угару, закруціць яго ў высокі слуп і пазасыпае вочы прахожым.

Жанкі, угледзеўшы такога віхра, адразу ж пачыналі хрысціца, затуляцць хусцінамі твары і дружна падаць на зямлю.

— Барані Божа папасці ў ягоную сярэдзіну! Зкруціць і пераламае ўсе косці, — гаварылі людзі і моцна верылі ў тое, што гэта сам нячысцік віруе пяском!

А пясок падымаўся высока ў неба і знікаў у яго прасторы.

З усіх бакоў наша сяло было акружана балотамі, балотцамі і маленькімі балоцічкамі, ды хваёвымі і ліставымі лясамі.

Само сяло ўпершыню стала разбудоўвацца і пашырацца ў канцы 50-х гадоў. У той час Савецкай уладай праводзілася актыўная кампанія «па зносу


Цэнтр новай забудовы

хутароў». Пад яе падлягала і ўся мая родная вёсачка Клімавічы...

Першыя каланісты (перасяленцы) сталі будавацца ў Чэрнях ўздоўж напрамку на Брэст, ля самага бярэзніку «Багунці». Імі і сталі забудоўшчыкі з Клімавіч (у тым ліку і мой бацька), якіх у сяле пачалі называць «клімаўцамі».

Сюды прыйшлі і некаторыя чэрнінцы з самого сяла і з хутара, што быў за хваёвым Баркам ля балота «Сцербіна».


Будынак адміністрацыі сельгаспрадпрыемства

Да Чэрнінскай пошты ў 50-я гады была пракладзена з горада тэлефонная лінія, пад якую рабочыя капалі канаўку рыдлёўкамі. Бабіна з тэлефонным дротам стаяла на сялянскім возе. Каня паганялі. Дрот раскручваўся і рабочыя старанна ўкладвалі яго ў канаўку. За гэтай падзеяй з цікаўнасцю назіралі ўсе чэрнінскія падлеткі, якія наўмысна прыбягалі паглядзець на небывалае ў іх жыцці.

А ў самым пачатку 60-х у сяло прыйшло электрычнае святло, і ў хатах загаманіла радыё... Гэтыя падзеі можна параўнаць з рэвалюцыяй, якая ўнесла ў жыццё сялян усё новае, перакуліла яго палюсы. Чэрні забурлілі новымі лозунгамі савецкай улады, якая прызывала сялян верыць у светлую і шчаслівую будучыню — камунізм.

*(Працяг будзе)*

*Ціна ХУТАРАНКА*

*Ціна ХУТАРАНКА*

# Школа ў Чэрнях

Каб годна апавядаць гісторыю Чэрнінскай школы, мабыць трэба ўспомніць пра гістарычныя падзеі з таго часу, калі наша мясцовасць уваходзіла ў склад нашай гістарычнай дзяржавы — Вялікае Княства Літоўскае.

Не так даўно атрыманы апошнія звесткі пра Чэрні, якія даслаў з Мінску Антанюк Іван Ігнатавіч. Зямляк зрабіў ксеракопію са «Святара» Дзяніса Лісейчыкава, у якой чорным па беламу напісана, што Чэрні ўспамінаюцца з ліпеня 1667 года. Менавіта ў той час, па архіўных дадзеных, быў прызначаны ў царкву нашага сяла святар Тэадор Смаленскі.

Аб гэтым падрабязна было напісана ў артыкуле «Царква вёскі Чэрні», надрукаваным у № 3 (15) «Астрамечаўскага рукапіса». Адсюль можна зрабіць выснову: калі ў сяле існавала царква, то пры ёй была і школа.

Дакладных дадзеных, на жаль, няма, але мы можам смела сцвярджаць, што Чэрнінскай школе ўжо 350 гадоў.

Сучаснікам гісторыя Чэрнінскай школы пакуль вядома з 1861 года.

Па аповяду жыхаркі Черняў Пячко Марыі Емяльянаўны, у гэтым годзе была арганізавана руская царкоўнапрыхадская школа. Будынак яе быў побач з царквою. У ц/п школе грамаце абучаліся сялянскія дзеці. Настаўнічаў там святар, выкладаючы «Закон Божы».

Праз нейкі час уладай быў прысланы сапраўдны настаўнік, які стаў вучыць дзяцей арыфметыцы, чытанню і пісьму. Перад навучальным годам ён сам запісваў дзяцей у школу, робячы падворныя абходы. Дзяўчынак запісвалі са згоды бацькоў. А вось хлапчукі павінны былі хадзіць у школу абавязкова. Як будучыя рэкруты, яны абучаліся грамаце, каб пісаць пісьмы дадому і чытаць «Закон Божы».

Першая школа згарэла разам з царквою у вялікім пажары. У 1894 годзе на грошы, выдзеленыя Расейскай дзяржавай у дапамогу царкве, як бы па страхоўцы, будынкі былі адбудаваны.

Унешні выгляд школы, пабудаванай пры Польшчы





Школьнікі з польскага часу




1936 г.
4-ы клас

Але школа зноўку аказалася недаўгавечнай. Будынак яе быў знішчаны ў першую сусветную вайну.

Царская ўлада прымусова выганяла тады ўсё тутэйшае насельніцтва ў бежанцы. У час баявых дзеянняў былі спалены ў сяле і многія хаты. Іменна тады і дагарэлі рэшткі Штэраўскага маёнтка. Вёска была без жыхароў, амаль пустая, таму не было каму тушыць тыя пажары...







Вучні 1937 года




Амаль уся школа ў 1939 годзе



Хата польскага часу ў Чэрнях. У такіх хатах жылі з бацькамі вясковыя вучні...

Ужо ў двадцатыя гады, калі на нашай зямлі паўстала Польшча, людзі пачалі варочацца з бежанцаў на Радзіму. Ішлі, ехалі — хто як мог. Хто коньмі, а ў асноўным — пехатою...



Год 1940-ы, перадваенны...



Першы пасляваенны год вучобы — 1946-ы.

Прыбылі. А тут! Уся ўзвораная зямля зарасла маладым бярозавым падлескам і альхоўнікам. Рэдка ў каго было прывезенае з сабою збожжавае насенне. Шматлікія сем'і не мелі з чаго пачынаць сяўбу. Тым больш! Не мелі ні хатніх жывёл і ні птушак. Не было чаго есці, акрамя лебяды з крапівою ды шчаўя.

Ратаваў лес. Там збіралі грыбы ды ягады. Лавілі рыбу, якою поўніліся равы і раўчукі. А сушаныя дзічкі былі смачнейшыя за цукеркі...

Такім чынам, жыццё нашага народа пачыналася з пустога месца, як зараз кажуць, з пустога ліста.

Праз нейкі час зноў сваю дзейнасць пачала аднаўляць школа, але на гэты раз на польскай мове. Спачатку дзеці вучыліся ў паповай хаце, якая стаяла побач з царквою. А калі там не хапала месца, то ішлі ў хату да дзяка.

У 1936 годзе ўладай Пілсудскага была пабудавана новая, прыгожая, прасторная школа. На яе адкрыццё прыязджаў сам Ваявода.

*«Воеводство Полеске.*
*Повет Бжесцкій.*
*Гміна Косічі.*
*весь Чэрні».*

Такім быў адрас нашага сяла пры польскай уладзе.

Новая школа была — «повшэхна». У перакладзе гэта значыць — агульнаадукацыйная.

Будынак яе быў з вялікімі вокнамі і крыты пацынкаванай бляхай. Знадворку сцены школы былі абабіты шалёўкай,



З рыдлёўкамі на школьнайградцы

Пячко Марыя с дачкой Валей





Васіль Васільявіч Свірскі (у цэнтры) са сваімі вучнямі

а ўнутры яна дзялілася на класы шклянымі, складнымі перагародкамі. Калі для школы патрабавалася вялікая зала, перагародкі згарталіся, і тады вучні ўсёй школай глядзелі кіно, ці ставілі свае канцэрты.

У кожным класе над дошкай вісеў герб — белы арол, а побач крыж. Першы ўрок абавязкова пачынаўся з малітвы. Малітву чыталі вучні і ў канцы заняткаў. У школе выкладаўся «Закон Божы». На ўрок рэлігіі да праваслаўных прыходзіў поп, а да католікаў прыязджаў ксёндз.

Праваслаўных школьнікаў цэлымі класамі вадзілі да споведзі і на службу ў царкву сяла.

У той, польскай школе было ўсяго тры настаўнікі:

Дырэктарстваваў там Трацюк Іван Васільевіч. Ён быў праваслаўнага веравызнання, але меў польскае подданства (грамадзянства). Былі яшчэ дзве настаўніцы — полькі. Адна з іх звалася Марыяй Дзюргутовай. Яна ёсць на здымку школьнікаў таго часу. (Альбом Пячко — Ботух М.Е.)

Для зручнасці вучняў у школе быў арганізаваны «склепік» (ларок) па гандлю школьнымі прыладамі, які працаваў на школьных перапынках. Там прадаваліся сшыткі, алоўкі, гумкі, пер’е для ручак, прамакатцы...

У гандляры «склепіка» выбіраліся самыя здольныя вучні. Некалькі гадоў імі былі Казлоў Уладзімір і Ботух Марыя. Прадаўцамі вёўся ўлік прададзеных і паступіўшых тавараў. Для гэтага была заведзена спецыяльная бухгалтарская кніга. Выручка ад гандлю аддавалася дырэктару школы. На гэтыя грошы стораж школы зноўку купляў ў горадзе






новыя школьныя матэрыялы, прывозіў іх у школу, і гандаль у «склепіку» працягваўся далей.

Дзецям з бедных сем'яў кожны дзень у школе выдавалася бясплатная кава з лустай хлеба.

У 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь, у тым ліку і ў Чэрні, прыйшлі «першыя Саветы». Яны адразу закрылі польскую школу і аб'явілі яе рускай.

Настаўніцы-полькі выехалі за Буг. Застаўся на месцы толькі Трацюк І.В. Ён, як і пры польскай уладзе, быў дырэктарам школы і пры рускіх.

Цяпер усе ўрокі сталі весціся на рускай мове. Школьнікі, якія правучыліся па пяць-шэсць гадоў у польскай школе, селі адноўку за рускія буквары. Не было рускамоўных настаўнікаў. Выкладанне праводзілася добраахвотнікамі з Расіі, якія мелі сямігадовую адукацыю.

У Чэрні такім добраахвотнікам была прыслана Суворава Дар'я Андрэеўна...

Але 22 чэрвеня 1941 года пачалася вайна. Пачалося другое, цяжкае жыццё ў нямецкай акупацыіі.

Школа зноўку была зачынена на ўвесь год. Дзейнічаць яна стала ў 1942 годзе. Акупантамі быў прысланы настаўнік, які запісваў дзяцей у класы. Але абучэнне, на гэты раз, вялося на ўкраінскай мове.

Лёс школы, быў зноўку недаўгачасны. На гэты раз, школьны будынак спалілі партызаны ў кастрычнічніку 1942 года.

— Спалілі, каб не жылі ў ёй немцы!.. — так яны апраўдвалі сваю дыверсію.

А захопнікаў у той момант там і не было.

З самага пачатку акупацыі ўся фашысцкая салдатня была раскватэравана па хатах сялян. Год, а то і болей, іхняя часць стаяла ў Чэрнях, а затым пераехала ў Чарнаўчыцы.

Партызаны ж зрабілі падпал ноччу. У той час немцы ўжо выбраліся з сяла на новае месца. У тую ж ноч быў спалены і «Паструнак». Так называўся пры Польшчы паліцэйскі ўчастак.

Усе чэрнінцы былі незадаволены такой дыверсіяй і доўгі час абураліся пры размовах на вуліцы:

— Каму замінала школа?

— І дзе будуць вучыцца нашы дзецi?

— Хаця бы спалілі ў прысутнасць ворагаў! А то тады, калі тыя з'ехалі адсюль...




Такі вось быў жвавы 5-ты клас!

Скончылася вайна. Пачалося мірнае жыццё. Пасля вайны прыйшлі «другія Саветы». Школа пачала дзейнічаць, як і калісьці — у паповай і дзяковай хатах. Праз некалькі гадоў зноўку была пабудавана невялічкая сямігадовая школа замест той, што была спалена партызанамі.

Дзяцей у тыя гады па сёлах было многа. Таму абучэнне вялося ў дзве змены. Акрамя таго ў тыя гады актыўна дзейнічала вячэрняя школа для працуючай моладзі. Вучыліся школьнікі ў той час пры газавых лямпах. Пісалі алоўкамі і пер'евымі ручкамі. Разліўное чарніла для пісьма гатавала тэхнічка — цёця Дуня (Казырко Еўдакія). Дзяжурныя вучні разлівалі яго па чарніліцах і разносілі па класах.

У той пасляваенны час у абавязак дзяжурных па класу ўваходзіла не толькі мыццё дошкі на перапынках, але і ў канцы заняткаў. Акрамя таго яны мылі падлогу пасля заняткаў.

З вучняў прызначаліся дзяжурныя па школе, якія хадзілі з чырвонымі павязкамі на рукаве і назіралі за парадкам у класах і паводзінамі школьнікаў на працягу ўсяго навучальнага дня.

На карыдоры вісела дошка адзнак, якія выстаўляліся кожнаму класу гэтымі ж дзяжурнымі ў канцы заняткаў. Кожны вучань быў зацікаўлены ў тым, каб яго клас быў першым, і таму ўсе стараліся трымаць дысцыпліну і парадак.

У школе той пары на вокнах не было ні вазонаў і ні фіранак. Былі голыя, як у казарме, сцены. Роўнымі радамі стаялі парты, перад якімі знаходзіўся стол настаўніка і на сценцы — вялікая, чорная дошка.

У самым пачатку 60-х гадоў было дабудавана да будынка школы левае крыло. Такім чынам пабольшала колькасць класаў, і школа стала васьмігадовай. А з электрыфікацыяй сяла, электрычнае святло прыйшло і ў яе будынак.

Праз пяцігодку, у 65–66 гадах, старая (пасляваенная) школа была перабудавана. Дырэктарстваваў у той час Стралкоў Валянцін Серафімавіч. На будоўлю школы цэглу прывозілі машынамі з горада. Разгружалі яе і складвалі ў стосы вучні старэйшых класаў.

За лета школа была пабудавана і першага верасня шырока адчыніла свае дзверы. Цяпер, з вышыні птушынага палёту, яна мела выгляд літары «П».

Ацяпленне ў ёй было пячным. Тэхнічкі: Арсенюк Аляксандра, Вага Любоў, Несцярук Вольга, прыходзілі распальваць печы сярод ночы, каб да пачатку

заняткаў у класах было цёпла. Але ў вялікія маразы было холадна, і дзеці сядзелі за партамі ў паліто.

Школьны карыдор у гэтым будынку быў вельмі шырокі і адначасова служыў фізкультурнай залай. На яго доўгай сцяне віселі партрэты членаў палітбюро без подпісаў. Акрамя тэзісаў партыйных з’ездаў, вучні павінны былі ведаць кожнага члена з Вярхоўнага Савета па прозвішчу і ў твар.

Заўжды дзень заняткаў пачынаўся з фізкультурнай размінкі, якую праводзіў настаўнік фізкультуры Валасевіч Вячаслаў Львовіч. Звычайна ён хадзіў у спартыўным касцюме са свістком на грудзях. Яго любілі і паважалі ўсе вучні. Летам у школе ім арганізоўваліся спаборніцтвы па валейболу і баскетболу. Школьнікі ездзілі з настаўнікам на раённыя спаборніцтвы ў Тамашоўку. Усе жылі там у палатачным лагеры, які быў разбіты побач з сялом у лесе. Амаль усёй школай вучні вандравалі ў турыстычныя паходы на Белае возера (аб чым сведчаць старыя фотаздымкі з альбома Пячко Валянціны).


Люда Антанюк і Таццяна Казлоўская

У школе той пары доўга дзейнічала «група прадоўжанага дня», у якой школьнікі рыхтавалі свае хатнія заданні. Выхавацелем і кансультантам у ёй працаваў настаўнік гісторыі Свірскі Васіль

Выпускны клас Чэрнінская васьмігодкі





Настаўнікі 1973 года

Васільевіч. Усе школьнікі любілі гэтага настаўніка. Былы франтавік выдатна выкладаў гісторыю і многа апавядаў вучням пра вайну і былыя баявыя паходы.

Лепшай настаўніцай пачатковых класаў лічылася Пячко Марыя Емяльянаўна.

За доблесную працу дзяржава яе ўзнагародзіла медалём «Да 100-годдзя нараджэння Леніна» і некалькімі пачэснымі граматамі. Яна была патрабавальнай настаўніцай, якая лічыла сваім абавязкам навучыць школьнікаў пачатковай грамаце, закласці ў іхнім разуменні грунтоўны падмурак ведаў.

— Толькі на моцным падмурку будуецца сапраўдны дом! Які зможа вытрываць любыя патрасенні часу, — часам так гаварыла яна аб сваёй настаўніцкай працы.

Замежную нямецкую мову выкладала Костыко Надзея Рыгораўна. Гэта была патрабавальная і дакладная настаўніца. Яна ўмела арганізаваць свой урок так, што для многіх вучняў замежная мова была самым любімым прадметам у школе.

Грунтоўныя веды ў вывучэнні рускай і беларускай мовы давала Ульяніцкая Валянціна Іванаўна. За адданую працу дзяржава ўзнагароджвала яе некалькі разоў пачэснымі граматамі.

Настаўнікі Чэрнінскай васьмігадовай школы актыўна прыймалі ўдзел у школьнай мастацкай самадзейнасці. Паміж класамі праводзіліся розныя конкурсы на лепшае выкананне патрыятычнай песні. У той час глядзельнай залай быў вясковы клуб. Школьнікі са сваімі канцэртамі выступалі з яго сцэны, а глядзець іх зыходзілася ўсё сяло.

Усёй школай гулялі ў «Зарніцу». Для гэтай ваенізіраванай гульні ў школьнай майстэрні, пад кіраўніцтвам матэматыка Іванова Івана Герасімавіча, вучні выраблялі драўляныя аўтаматы. Гранатамі ім служылі сасновыя шышкі. Як для сапраўдных салдат, была абавязковай страявая падрыхтоўка. Таму на школьным пляцу, пасля ўрокаў, пад каманду В.Л. Валасевіча вучні класамі маршыравалі з атраднымі песнямі. Сама гульня «Зарніца» праводзілася ў сасновым Барку за вёскай.

Кожны год, 19 мая, на Дзень нараджэння піянерскай арганізацыі, у тым жа Барку арганізоўвалася вялікае піянерскае вогнішча, куды хадзілі ўсёй школай. Наперадзе ішоў сцяганосец з чырвоным сцягам школьнай піянерскай дружыны. За ім ішлі барабаншчык і гарніст. Бара-



У падарожжа ды з песней









Школьныя гады – цудоўныя!

банцчык біў у барабан, а гарніст дудзеў у горн. Школьнікі стройнымі радамі, маршыравалі класамі за імі.

Вогнішча ў Барку запальвалі самыя годныя і смелыя піянеры. Пасля чаго уся школа дружным хорам спявала:

«Взвейтесь кострами синие ночи!

Мы пионеры — дети рабочих!»

Вось такім было жыццё васьмігадовай школы ў 60-я гады.

Новую, цяперашнюю, двухпавярховую сярэднюю школу дзяржава пабудавала ў 1986 годзе. Гэты ўтульны

Пячко Федар Кляменцьевіч (справа) з унучкам Мішай Карпеш



і прыгожы будынак можна сапраўды назваць «Палацам Ведаў». Яна стаіць у прыгожым бярозавым гаю. Вакол кветкі і кустоўе. У такім прыгожым месцы выхоўваюцца і прыгожыя душы.

Унутры школы ўсюды па карыдорах растуць вазоны. Сцены ўпрыгожваюць карціны, габелены і дробныя вырабы вучняў. На вокнах вісяць прыгожыя жалюзі.

Усе класы па-дамашняму ўтульныя. Яны абсталяваны сучаснай мэбляй. Класныя вокны ўпрыгожаны фіранкамі. У класах многа хатніх кветак.

У школе ёсць спецыяльны кампьютарны клас, вялікая актавая і спартыўная залы.

Існуе музей сяла.

У канцы 80-х гадоў у Чэрнях была створана музычная школа. Яна размясцілася ў будынку былога сельскага Савета. Цяпер там вясковыя дзеці могуць атрымліваць музычную адукацыю і развіваць свае вакальныя здольнасці.



# Сколько счастья нужно детству?

**Считается, что детству не нужно много для счастья. Порция заботы и внимания, горсточка сюрпризов и веселья, щепотка волшебства да несколько любимых игрушек. Но главный ингредиент в этом нехитром рецепте — конечно же, родительская любовь. К сожалению, доступен он далеко не всем.**

В детских домах семейного типа, которых в нашей стране с каждым годом становится все больше, мальчикам и девочкам дают ту самую любовь и заботу, которых они не получали от родных мам и пап. В пригороде Кобрина расположилась целая деревня из симпатичных коттеджей, где живут и воспитываются ребята, оставшиеся без попечения родителей. Один из них накануне Нового года посетила председатель Брестского районного Совета депутатов Людмила Жукович. Вместе с ней к детворе заглянули Дед Мороз и Снегурочка, в которых облачились Игорь Кушнир и Елизавета Приходько. Это уже четвертая благотворительная акция, инициированная Людмилой Васильевной для подшефного дома в Кобринской детской деревне.

...Двухэтажный коттедж из красного кирпича внутри оказался по-рождественски уютным и нарядным. Гостиная приукрасилась гирляндами и мишурой, красавица-елка зажглась разноцветными огоньками, а у теплой печи клубочком свернулся котенок Филька — все, как в самой настоящей семье. Как позже

Детдомовцы тепло встречали гостей






Новогодние подарки от шефов и Деда Мороза.

рассказала Оксана Малышева, в доме живут аж четыре кошки, а убранство комнат — общая творческая работа взрослых и детей.

Атмосферу праздника и волшебства подчеркивали и карнавальные костюмы малышей, которые, едва увидев на пороге гостей, выпорхнули к ним с объятиями и стихами. Со счастливыми лицами они распаковывали разноцветные коробочки, упаковочки и искренне радовались находящимся под ними игрушкам, сладостям, спортивным атрибутам, канцтоварам. Особый восторг мальчишек вызвали машинки на пульте управления, которые они тут решили опробовать в деле.

Взрослые с удовольствием присоединились к детским забавам, а после все вместе водили хоровод с Дедушкой Морозом, пели, играли. К слову, спонсорскую помощь на приобретение подарков оказали районная организация РОО «Белая Русь» и глава фермерского хозяйства «Бугагроинвест» Юрий Федкович, который также приехал с визитом к ребятам.

Благодаря его стараниям у ребят новая мебель, современная печь, к 1-му сентября — школьные принадлежности, а на столе — соки, фрукты и сладости. За неравнодушие и благотворительность Людмила Жукович наградила бизнесмена Благодарственным письмом районного Совета депутатов.

...Близилось время расставаться, но радушные хозяева не хотели отпускать прибужскую делегацию. Самые маленькие все норовили обнять гостей, рассказать и показать им что-то важное, а десятилетний Вова принес свой баян и устроил для них маленький концерт. Напоследок шефам подарили поделки, выполненные девочками в технике декупаж, после чего тепло распрощались с ними с надеждой на новую встречу. Наблюдая за отношениями этих, в общем-то чужих людей, убеждаешься в правдивости слов — твоя семья там, где тебя любят и ждут.

*Алеся ПАШКЕВИЧ,*
*фото автора*



# Выставка лоскутного шитья

**С середины декабря 2016 года в детской библиотеке им. Пушкина на ул. Набережная областного центра действовала выставка «Карагод калядных зорак». Вниманию участников проекта были представлены работы одного из видов декоративно-прикладного творчества — лоскутного шитья. Это направление имеет глубокие исторические корни и в последнее время бурно развивается и приобретает все больше поклонников в нашей стране.**

На берег Мухавца выставка «перекочевала» из Полоцка, где ее работы принимали участие в международном фестивале-конкурсе лоскутного шитья с международным участием «ПОЛОЦК-КВИЛТ–2016».

Разобраться, что это сегодня — бабушкино рукоделие или высокое искусство, помогала всем присутствующим член Союза народных мастеров Беларуси Галина Зигмундовна Масюк. Она является дипломантом международных конкурсов, может поделиться своим опытом и мастерством с юными мастерицами. Во время презентации участники не только познакомились с этим видом творчества, не только узнали историю и значение его в жизни каждого белоруса, но и сделали своими руками заготовки для поделки «Бабочка», которую смогут сделать самостоятельно, используя советы опытной мастерицы.

На огонек в детскую библиотеку заглянул и дедушка Мороз, который поздравил всех присутствующих с наступающими праздниками и подарил новогодние песни и хорошее настроение всем присутствующим.

*Напоминаем: куратор данного проекта — Татьяна Кузнецова (призер и лауреат конкурсов лоскутного шитья), художественный консультант — Ольга Матусевич (преподаватель Хобби-курсов в Минске, магистр искусствоведения).*

*Светлана ИВАШКОВА*



*Наталья* БЕРЕСНЕВИЧ

# Бабушкины лоскутные фантазии

Разве можно пройти мимо,
Не взглянуть на красок хоровод?
Наше время снова возродило
Деревенский дух и стиль работ!
Собирали лоскут и обрезки
Бабушки от бедности порой.
Гардероб кроили старый детский,
Чтоб украсить грустный домик свой:
Стеганым красивым одеялом,
Ковриком из ярких лоскутков —
От них веяло добром и сказкой,
Вдруг рассказанной одним из вечеров.
И сегодня наши мастерицы
Шьют, не ведая покоя, даже сна!
Чтоб продолжить долгий путь традиций,
Передать их прелесть всю сполна.
Передать всю силу женской сути —
Создавать уют, беречь семью;
Показать, как лоскутки и нити
Обретают снова жизнь свою;
Научить детей своих и внуков
Наслаждаться творческим огнем,
Сочетаньем красок и рисунков,
Созданных любовью и трудом!
Вот одеяльце — всем на радость!
Пляшут в хороводе лоскутки!
Словно радуга на все цвета распалась
И порхают в небе мотыльки.
Пахнет летом и зеленой травкой.
Ощущенье счастья, красоты!
Вспоминается деревня, печка, сказка
И давно забытые мечты.
Хочется укрыться одеялом,
Погрузиться в чудный яркий сон
И заснуть в нем крепко, сладко,
И купаться в озере цветном!

# Добрый вечер с Татьяной Колтынаевой

**16 декабря в гостиной Брестской областной филармонии отметили 20-летие народного ансамбля эстрадной музыки «Экспромт» (художественный руководитель и солистка Татьяна Колтынаева)**

Организатор, худрук и солистка ансамбля Татьяна Колтынаева нынче возглавляет Брестскую областную филармонию. Но не оставила исполнительской стези и своего коллектива. Вот и этот вечер, начавшийся дружеским чаепитием, продолжился выступлением ансамбля. Звучали инструментальные пьесы, а затем в зале воцарилась не просто творческая атмосфера, а настоящий апофеоз романсу – старинному и красивейшему вокальному жанру.

Татьяна Колтынаева совершила своеобразный экскурс в историю этого жанра, рассказала о своей к нему непреходящей любви. И, конечно же – привела всех присутствующих в восторг блестящим исполнением классических русских романсов, салонных песен романтичного «серебряного века», песен из кинофильмов, цыганских мелодий...

Выразительно и проникновенно звучали «Отцвели уж давно хризантемы в саду», «Мой костер в тумане светит», «Молитва» Булата Окуджавы... Вокальные номера чередовались с инструментальными, ансамбль вдохновенно играл «Танго» Пьяццоллы, «Лунную серенаду» Миллера. На вечере мощно прозвучал вокальный шедевр «Не отрекаются любя», посвященный певицей любимому человеку в зале.

Татьяна Анатольевна призналась: «Я обожаю компании, которые умеют проводить время за чашкой чая и в то же время могут вместе петь». Это же она предложила слушателям – пить чай и петь вместе, или хотя бы подпевать в припевах.



Поет Татьяна Колтынаева

На вечере романса присутствовали немецкие гости из Равенсбурга, побратима города Бреста, сопровождавшие все происходящие горячими аплодисментами.

Пусть будет больше таких добрых вечеров.

*Любовь ПАВЛОВА*
*Фото Светланы ВЕРТИНСКОЙ*

# «Дарожка» Івана Кірчука

**Лідэр гурта «Троіца» прадставіў 29 снежня ўнікальную праграму, якая была створана па матэрыялах беларускага фальклору**




Монаспектакль «Дарожка мая», які адбыўся ў культурным цэнтры «Грунтоўня» у Бярэсце, — гэта сінтэз духоўнай і матэрыяльнай, абрадавай і магічнай, музычнай і песеннай спадчыны беларускай культуры, назапашанай за 30 гадоў творчай дзейнасці аўтара. На сцэне гучаць каля 40 беларускіх народных песень, запісаных падчас фальклорна-этнаграфічных экпедыцый 1983–2003 гг., выбраных з фаналабараторыі Рэспубліканскага радыё, з архіваў НАН РБ.

«Творчасць Івана Кірчука цяжка апісаць словамі — яго трэба чуць. Гэта сапраўдная магія словаў і гукаў. Атмасфера і энергетыка ягоных канцэртаў проста неверагодныя, — расказаў дырэктар культурнага цэнтра «Грунтоўня» Віктар Клімус. — Нашаму пакаленню цяжка расшыфраваць сэнс фальклорных песень, асабліва абрадавых, рытуальных. Але калі пачынаеш унікаць у сімволіку, разумееш кантэкст выканання тых ці іншых кампазіцый (а яны выконваліся строга ў свой час), тады можна адкрыць цэлы космас, міфалагічны светапарадак нашых продкаў».




Іван Кірчук умее не толькі з музычных пазіцый выканаць падобныя песні, але і правільна іх падаць, растлумачыць, адзначыў Віктар Клімус. «Форма монаспектакля з храналагічным, календарным сюжэтам тут вельмі пасуе», — дадаў ён.

Выступ цягнуўся амаль паўтары гадзіны, і яшчэ амаль паўгадзіны Іван Кірчук адказваў на пытанні слухачоў і даваў аўтографы.

*https://www.b-g.by/culture/sobyitiya/gar-k-rchuk-syigra-u-berasc-monaspektakl-darozhka-maya/*

# Міжнародны кніжны кірмаш у Мінску

**З 8 па 12 лютага ў выставачнай зале НВЦ «Белэкспа» прайшла XXIV Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш, на якой быў таксама прадстаўлены шэраг нумароў Брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс»**

Упершыню ў шчыльным графіку мерапрыемстваў арганізатары далі магчымасць выступіць з праграмай літаратарам абласных аддзяленняў ГА «Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Брэсцкая дэлегацыя прывезла на выставу насычаную і цікавую праграму. Пляцоўка, на якой выступалі творцы, сабрала нямала гледачоў. Прэзентацыю «Берасцейскае Суквецце» адкрыў вядомы брэсцкі бард Васіль Баннаў.

Былі адзначаны найбольш яркія мерапрыемствы — свята паэзіі «Лунінская восень», цырымоніі ўзнагароджання лаўрэатаў абласной літаратурнай прэміі імя У.А. Калесніка, рэспубліканскі фестываль рускай паэзіі «Мы рождены для вдохновения».

Фатаграфіі на вялікім экране цэнтральнай пляцоўкі суправаджаліся расповедам пра брэсцкіх літаратараў.






Кожны з іх — цікавая асоба. За плячыма многіх — літаратурныя перамогі ў прэстыжных конкурсах, вялікая грамадская праца і, вядома ж, — важкае, яркае, мудрае пісьменніцкае слова.

Але ў цэнтры ўвагі ў гэты дзень былі ўсё-такі друкаваныя выданні! Краязнаўца, журналіст Расціслаў Бензярук прадставіў буктрэйлер па сваёй кнізе, якая выйшла ў 2012 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» «Мячы Грунвальда. Альбом Дванаццаць абаронцаў караля». Аповесць пра гераічныя часы і славутых рыцараў сапраўнае займальнае падарожжа ў часе для тых, хто вывучае гісторыю роднага краю. Выданне маляўніча аформіў на глянцавых старонках мастак Уладзімір Даўгяла.

Вялікую цікавасць у прысутных выклікалі кніжныя стэнды, якія з асаблівым берасцейскім каларытам аформілі супрацоўнікі Брэсцкай гарадской бібліятэкі імя А.С. Пушкіна — Ірына Фаміна і Наталля Арцёмчык.

Толькі за пяць апошніх год брэсцкімі пісьменнікамі выдадзена каля сотні новых арыгінальных цікавых кніг у мясцовы і сталічных выдавецтвах. З самых апошніх брэсцкіх навінак — сумесны праэкт брэсцкага мастака Ігара Раманчука і паэткі Таццяны Шульгі Альбом «Любимый город», а таксама раман пра трагічныя падзеі на Палессі падчас Другой сусветнай вайны «Лаза» Зінаіды Дудзюк.

Асаблівую ўвагу наведвальнікаў кніжнага кірмашу прыцягнула серыя раённых краязнаўчых альманахаў «Астрамечаўскі рукапіс». Аўтарам, рэдактарам і ўкладальнікам унікальнага выдання з'яўляецца журналіст, пісьменнік Аляксандр Валковіч. У арыгінальным выдавецкім праекце шырока прадстаўлена этнаграфічная, фальклорная тэма, якая датычыцца Брэсцкага раёна. Сёння альманах вядомы далёка за межамі нашай краіны. Самабытнаму рэгіянальнаму выданню быў прысвечаны леташні нумар амерыканскага часопіса «US—Belarus Observer» .

У гэты дзень на цэнтральнай пляцоўцы Нацыянальнага стэнда Беларусі гучалі вершы брэсцкіх аўтараў. Перад прысутнымі выступіў паэт, кіраўнік літаратурнага клуба пры СШ № 10 Міхаіл Кулеш і арганізатар рэспубліканскага фестывалю рускай паэзіі, намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Любоў Красеўская. Напачатку свайго выступлення паэт Любоў Красеўская прэзентавала конкурсныя і фестывальныя зборнікі маладых аўтараў, прадстаўленыя на выставе — «Адкрыццё» і «Созвучье слов живых».

Паездка на кніжны кірмаш была арганізавана пры ўдзеле і падтрымцы галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама і ДУК «Брэсцкая гарадская бібліятэка імя А.С. Пушкіна» і стала выдатнай магчымасцю прадставіць на міжнародным узроўні багатую літаратурную творчасць Брэстчыны.

*Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ,*
*старшыня Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі*

У стенда брестских литераторов зам. председателя областного отделения СПБ Любовь Красевская



# Школа астрамечаўскага мужыка

**Прэзентацыя выдання «Аляксей Скакун. Жыццё і працоўны подзвіг» адбылася на XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выставе**

Завяршылася XXIV Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш. Літаратары скарысталі шанец убачыць лепшыя ўзоры выдавецкай справы 31 краіны свету. І традыцыйна гэта знаёмства было яскравым дзякуючы прэзентацыям новых выданняў. Адно з такіх — кніга «Аляксей Скакун. Жыццё і працоўны подзвіг», якую выпусціла «Адукацыя і выхаванне» ў серыі «Асобы».

Праект надзвычай цікавы, бо ў ім выходзяць тамы пра суайчыннікаў, якімі ганарыцца суверэнная Беларусь, распавёў «СГ» адзін з аўтараў кнігі, пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі:

— З выдавецтвам «Адукацыя і выхаванне» ў нашага часопіса даўняе сяброўства: супрацоўнічаем, ствараючы кніжкі з серыі «Бібліятэка «Вясёлкі». Зрабіць выданне пра Аляксея Скакуна, былога кіраўніка славутай брэсцкай гаспадаркі «Астрамечава», мне прапанаваў дырэктар выдавецтва Мікола Супрановіч. Справа ў тым, што раней убачыла свет мая аповесць пра Аляксея Сцяпанавіча «Мужык». Спачатку на беларускай мове, потым яна была перакладзена на рускую. У выніку аповесць склала адну частку кнігі. У другой мы сабралі 25 эсэ, аўтары якіх знакамітыя ў краіне людзі, асабіста знаёмыя з вядомым аграрыем. У тым ліку старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Міхаіл Мясніковіч, старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Уладзімір




Гусакоў, кампазітар Ігар Лучанок, касманаўт Пётр Клімук.

Кнігі пра жыццё славутых суайчыннікаў, якія могуць быць прыкладамі для моладзі, павінны з'яўляцца ў друку. І Аляксей Скакун, які больш за 40 гадоў кіраваў паспяховай астрамечаўскай гаспадаркай, — выдатнае таму пацвярджэнне. Гэта зазначыў у інтэрв'ю карэспандэнту «СГ» аўтар аднаго з артыкулаў, прафесар, былы намеснік Прэм'ер-міністра Анатоль Тозік:

— Аляксей Скакун выдатны чалавек, незвычайная асоба, а тое, што кніга пра яго ўбачыла свет, лічу правільным рашэннем. Бывае, мы забываем пра выдатных людзей, якія, аддаўшы ўсё, што

могуць, працы, выходзяць на заслужаны адпачынак. Гэта не ёсць добра. І такія кнігі патрэбны не столькі самім героям, колькі менавіта тым, хто яшчэ толькі пачынае творчае, прафесійнае жыццё. Выданне пра Аляксея Скакуна, да прыкладу, будзе карысным многім кіраўнікам і спецыялістам гаспадарак, якія працуюць сёння, каб наша зямля радзіла, а мы былі сытыя. З Аляксеем Сцяпанавічам я знаёмы ўжо больш чым 15 гадоў, з таго моманту, як узначальваў Камітэт дзяржаўнага кантролю. Мы добра ведалі гэтую перадавую гаспадарку. Часта сам ездзіў у Астрамечава, каб дакладней разабрацца ў сельгасвытворчасці. Мы пасябравалі, і сяброўства працягваецца. Упэўнены, Аляксей Сцяпанавіч можа даць яшчэ многа ведаў у сваёй сферы, падзяліцца вопытам. Было б добра, каб гэта разумелі яго паслядоўнікі.

Дарэчы, сёння ААТ «Астрамечава» кіруе зямляк Аляксея Скакуна Алег Бурак. На заслужаны адпачынак легендарны старшыня гаспадаркі пайшоў, пакінуўшы пасля сябе годную змену. Значыць, у Астрамечаве і надалей будуць гэтаксама клапатліва вырошчваць хлеб і працягваць традыцыі, закладзеныя Аляксеем Сцяпанавічам. У гэтым упэўнена заслужаны эканаміст Беларусі былы кіраўнік Нацыянальнага банка Надзея Ермакова:

— Вядома, што хлеб — усяму галава, а ў сельскай гаспадарцы мы атрымалі нядрэнныя поспехі. І прафесійны шлях Аляксея Скакуна — а з ім я знаёма з канца 1996 года — яскравае таму пацвярджэнне. Я тады кіравала адным з банкаў, ён — гаспадаркай, і калі былі нейкія пытанні, мы заўсёды абменьваліся меркаваннямі. Дарэчы, першае аддзяленне банка з банкаматам у сельскай мясцовасці мы тады адкрылі менавіта ў Астрамечаве. Удзячна лёсу, што ведаю Аляксея Сцяпанавіча: якраз такія, як ён, і вырошчваюць, песцяць самае галоўнае — хлеб, яны вялікія працаўнікі, мужныя, таленавітыя. Пра такіх асоб трэба гаварыць, а вёска на лепшых прыкладах павінна развівацца. Тым больш, што намаганні дзяржавы ў гэтым плане прыкметныя: зроблена велізарная праца па стварэнні аграгарадкоў. І будзем спадзявацца, што праз колькі гадоў, 10 ці 20, людзі будуць імкнуцца ехаць жыць у вёску.

На прэзентацыю ў Мінск прыехаў і сам герой кнігі. Аляксей Скакун прымаў віншаванні з нагоды выхаду кнігі. У прыватнай гутарцы Аляксей Сцяпанавіч сціпла прызнаўся, што выхад кнігі для яго прыемная навіна. І толькі наказваў: «Каб жыць годна, трэба падыходзіць да справы добрасумленна, быць працавітым і цярплівым, настойлівым і адважным. Трэба абавязкова верыць у сябе, у людзей, у заўтрашні дзень. Сёння трэба ісці ўперад, больш бачыць перспектыву. Калі мы прыйшлі, пачыналі з касы і лапаты. А цяпер сельская гаспадарка — гэта механізмы і камп'ютары, гэта значыць высокія тэхналогіі».

*Тацццяна УСКОВА*



Уладзімір Ліпскі і Аляксей Скакун (у цэнтры) падчас прэзентацыі кнігі «Аляксей Скакун. Жыццё і працоўны подзвіг»

# «Медуница» блеснула во Влодаве

**6-й Международный фестиваль Колядок и Щедровок над Бугом прошел в конце января в польском городе Влодава. Народный ансамбль песни «Медуница» Клейниковского Дома культуры принял в нем участие и завоевал диплом II степени**


Диплом II степени вручают руководителю ансамбля «Медуница» Екатерине Сидорук

Организаторами фестиваля стали Влодавское культурное объединение, Староство поветовое во Влодаве и Влодавский Дом культуры. В финал из 35 заявившихся коллективов дошли 26: 18 польских, 6 украинских и 2 белорусских. Около 300 артистов объединила в тот день сцена Влодавского Дома культуры, где традиционно проходит этот фестиваль.

Финалисты выступали в трех номинациях — пение с аккомпанементом, выступление капелл с музыкальным сопровождением и пение а-капелла (то есть без музыкального сопровождения). В последней категории заявился и прибужский ансамбль «Медуница». Коллектив исполнил колядку на польском языке «В Вифлееме» и белорусскую щедровку «Ой, на моры-моры» в обработке Екатерины Сидорук, которая с августа прошлого года является руководителем ансамбля, сохраняя и развивая традиции, заложенные его создателем Валерием Родионовым. Жюри фестиваля отметило высокий уровень клейниковских артистов и наградило их дипломом второй степени в номинации «Пение а-капелла».



«Я очень благодарна каждому участнику коллектива, который потрудился над нашим признанием на этом фестивале, внес вклад в эту победу, — по возвращении домой поделилась с редакцией Екатерина Сидорук. — Это наша творческая семья — люди, которые живут ансамблем без малого 24 года: Людмила Миронюк, Лариса Колдушко, Татьяна Бедная, Валентина Чеченина, Татьяна Серко, Наталья Зеленко. Все они большие энтузиасты своего любимого дела, особенно такого непростого пения, как а-капелла, — пения души».

*Наталья ПАШКЕВИЧ*



# *Да 70-годдзя Леаніда Канстанцінавіча ЗАХЛЕЎНАГА*

Леанід Канстанцінавіч Захлеўны (16 студзеня 1947, Гродна) — беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994).

Закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класу кампазіцыі прафесара А.В. Багатырова (1972) і асістэнтуру-стажыроўку пад кіраўніцтвам прафесара Я.А. Глебава (1976). Член СК Беларусі (1974).

Сярод яго выкладчыкаў былі легенды беларускай кампазітарскай школы: Глебаў, Алоўнікаў. Яны сталі не толькі яго кіраўнікамі, але і духоўнымі настаўнікамі — перадалі Захлеўнаму музычную эстэтыку, якую кампазітар захоўвае і сёння. Яшчэ у час студэнцтва, ён пачаў пісаць песні, якія выканалі Віктар Вуячыч і Яраслаў Еўдакімаў. Больш за 10 гадоў Захлеўны працаваў музычным рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм». За час яго працы створаны мелодыі да дзясяткаў дакументальных, анімацыйных, мастацкіх кінастужак (сярод іх «Песня пра зубра», «Светлячок і Расінка», «Казка пра вясёлага клоўна»). Стаў «бацькам» ансамбля «Бяседа», якім кіруе ўжо чвэрць стагоддзя. Калектыў быў на гастролях у дзясятках краін, аб’ездзіў усю Беларусь.

Творы Леаніда Захлеўнага маюць у сваім рэпертуары многія артысты: Якаў Навуменка, ансамбль «Сябры», Іосіф Кабзон, салісты беларускага опернага тэатра Алена Сала і Уладзімір Пятроў, эстрадныя выканаўцы. Мы ведаем яго знакамітую калыханку, песні «Азёры дабрыні», «Зямля мая», цыкл твораў «Памяць». Але сярод самых папулярных кампазіцый — кантаты «Вянок» і «Муха-Цакатуха», харавыя цыклы, сімфоніі ды рамансы на словы Максіма Багдановіча і Уладзіміра Карызны.

Леанід Захлеўны змог не толькі папулярызаваць народныя творы, але і звярнуўся да сур’ёзнай сімфанічнай музыкі: усё ж кампазітар выхаваны на фальклорнай традыцыі, але ведае, што такое мелядызм, лірычнасць і моц акадэмічных твораў. Таленавітыя працы Захлеўнага, наогул яго творчасць адзначаліся шматлікімі ўзнагародамі. Кампазітар з’яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, узнагароджаны срэбным медалём Аляксандрава і ордэнам Францыска Скарыны.



